№ 02 (887) 14 студзеня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады


Старонка 6

## Ісламісты лезуць у Беларусь?

КДБ затрымаў 20 салафітаў.

У Парыжы ворагі нашай, заходняй цывілізацыі паднялі руку на нашых калег з «Шарлі эбдо», на свабоду. Яны подла забілі бяззбройных журналістаў і спрабавалі ўцячы. Але тэрарыстаў знайшло пакаранне, а свет з’яднаўся ў падтрымку Францыі. Старонка 11.



## Як сын палкоўніка КДБ стаў галоўным беларускім ідэолагам

Гісторыя жыцця Ігара Бузоўскага. Старонкі 2—3.



## 25 гадоў ад званка да званка

Першы юбілей беларускамоўнага Ліцэя імя Якуба Коласа. Старонка 11.



# ЯНО

## Як магілёўская газета зрабіла пачварай сціплага вясковага транссэксуала.

Старонкі 4—5

КІРЫЛА ХІЛЬКО

# Як сын палкоўніка КДБ стаў

Гісторыя жыцця **Ігара Бузоўскага**.

Беларуская ідэалогія займела новы твар. Цяпер сфармуляваць нацыянальную ідэю паспрабуе 42-гадовы кіраўнік БРСМ Ігар Бузоўскі, якога перавялі на пасаду намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.



З'езды БРСМ традыцыйна наведвае Аляксандр Лукашэнка.



У ніжнім шэрагу Іван (справа) і Ігар Бузоўскія.

### Як Бузюкі сталі Бузоўскімі

Будучы ідэолаг нарадзіўся ў вёсцы Кашалёва, за некалькі кіламетраў ад Навагрудка. Прозвішча рэдкае для мясцовасці, дый увогуле для Беларусі.

Адкуль узяліся Бузоўскія на Наваградчыне? «Як расказваў муж, раней было прозвішча Бузюк. Калі ў 1920-я прыйшлі палякі, уся радня перапісаліся на польскі лад, — узгадвае цётка ідэолага Лідзія Бузоўская. — А як палякі сышлі, усе зноў сталі Бузюкамі (Бузукамі), і толькі адзін застаўся Бузоўскім». Шляхетнае прозвішча пакінуў сабе дзядуля ідэолага.

Лідзія Канстанцінаўна жыве ў Навагрудку. Яна была замужам за дзядзькам Ігара Бузоўскага, але можа расказаць і пра бацьку ідэолага Івана Іванавіча.

«Калі майму мужу было тры гады, а Вані — сем, памёр бацька. Іх выхоўвала адна маці. Яна ўсё жыццё працавала даяркай на ферме. Сям'і было вельмі цяжка, таму да працы хлопцы былі прывучаныя з самага дзяцінства. Трэба і на агародзе паспець, і малатком нешта зрабіць,» — кажа яна. Лёс не маляваў перад хлопцамі асаблівых перспектываў, але будучыня пераўзышла ўсе самыя смелыя чаканні.

«Мой муж вучыўся лепш за Ваню, але таму дапамог лёс», — тлумачыць Лідзія Канстанцінаўна.

### Бацька ў органах

Калі Іван Бузоўскі вярнуўся з войска, яго адразу паставілі старшынёй сельсавета ў Налібаках. Нявестка кажа, што за Івана нібыта замовіў слова старшыня мясцовага, Кашалёўскага, сельсавета.

Далей — больш. У Бузоўскага не было ніякіх уплывовых сваякоў, якія маглі б цягнуць яго наверх, але неўзабаве ён паступіў у Маскву на юрыдычны факультэт, хай і на завочку. Адзінай атрыманай адукацыяй у яго на той момант была школа ў суседняй вёсцы.

Наступнае прызначэнне было яшчэ больш перспектыўным. У сярэдзіне 1970-х Іван Бузоўскі стаў першым сакратаром Навагрудскага райкама камсамола — тагачаснага БРСМ. А праз некалькі гадоў канчаткова сышоў працаваць у КДБ.

«Людзі з КДБ вельмі ўтойлівыя. Я спачатку хацела нешта спытаць, а пасля думаю: навошта мне гэта? Калі я замуж выходзіла за ягонага брата, то пра мяне яны ж усё вывучылі», — са смехам узгадвае Лідзія Бузоўская.

Вера, жонка Івана, вывучылася на бухгалтара. Калі бацька пайшоў працаваць у «органы», у сям'і ўжо гадаваўся Ігар. Ягоным месцам нараджэння пазначана Кашалева, але яшчэ немаўлятам яго перавезлі ў Навагрудак. У родную вёску хлопец вяртаўся на лета да бабулі.

Бацькоўская хата чыноўніка стаіць дагэтуль, яе выкарыстоўвае як лецішча ягоная стрыечная сястра.

Дзяцінства Ігара Бузоўскага было неспакойным. У школу ён пайшоў у Навагрудку, дзе ў мясцовым КДБ служыў бацька, але пасля давялося паездзіць па Беларусі. Навагрудак, Гродна, Ваўкавыск, зноў Гродна, Мінск... Івана Іванавіча перакідвалі з месца на месца, ён цэлымі днямі шчыраваў на чэкісцкай рабоце, хатняя гаспадарка была на жонцы.

Тым часам у Ігара нарадзілася сястра. Вольга адвучылася на эканаміста, цяпер адкрыла сваю справу.

Бузоўскія заўсёды дапамагалі сваякам. «Яны ніколі не пакідалі ў бядзе. І калі памёр мой муж, і калі дачка трапіла ў аварыю... Кожны дзень Іван Іванавіч вазіў ежу ў рэанімацыю, штодзень, больш за месяц», — узгадвае Лідзія Канстанцінаўна.

### Вайсковая служба цягнулася нядоўга

Сканчваў школу Ігар у Мінску. Калі надышоў час вырашаць, куды паступаць, хлопец пайшоў у Мінскае вышэйшае вайсковае вучылішча. Гэтае рашэнне было самастойным ці ён проста пайшоў шляхам бацькі ў сілавікі? Пра свой выбар прафесіі Бузоўскі не расказваў ніколі.

Так ці інакш, адвучыўшыся і адпрацаваўшы год на афіцэрскай службе, Ігар вярнуўся ў Навагрудак. «Афіцэрская праца была Ігару недаспадобы», — узгадвае цётка.

Малады чалавек уладкаваўся ва ўпраўленне адукацыі Навагрудскага райвынкама. Бузоўскі знайшоў сябе ў Цэнтры пазашкольнай працы. Быў псіхолагам у школе і ПТВ, узначаліў аддзел сацыяльна-педагагічнай і псіхалагічнай работы.

У Навагрудку ён і ажаніўся, маладыя пасяліліся ў жонкі. Дарэчы, адзіны сын Бузоўскіх, Андрэй, паступіў у Вышэйшы сталічны каледж сувязі.

Ініцыятыўнаму, у рамках сістэмы, маладому чалавеку не далі застацца ў правінцыі. У канцы 1990-ых ён стаў памочнікам сакратара ЦК Беларускага патрыятычнага саюза моладзі, затым папрацаваў у моладзевым цэнтры «Юнацтва», у юнацкім хакейным клубе «Залатая шайба»...

А пасля апынуўся на БТ. У 2002-м Бузоўскі стаў намеснікам кіраўніка дырэкцыі прамоцыі Белтэлерадыёкампаніі. Аддзел займаўся фарміраваннем сеткі вяшчання БТ, а Ігар адказваў за сувязі з грамадскасцю.

Для таго, каб перайсці на кіраўнічыя пасады, Бузоўскаму не хапала «цывільнай» адукацыі. У Беларусі большасць патэнцыйных чыноўнікаў паступала ў Акадэмію кіравання, але ідэолаг пайшоў іншым шляхам. Ён абраў Акадэмію дзяржаўнай службы пры прэзідэнце Расіі.

У 2003-м Бузоўскі нарэшце апынуўся ў навастворaным БРСМе. Тры арганізацыі аб'ядналіся пад гэтай назвай, каб быць увасабленнем дзяржаўнай моладзевай палітыкі.

У БРСМ Бузоўскага зрабілі другім сакратаром. Сайт арганізацыі называў яго ініцыятарам акцый «За!», «Ачысцім Інтэрнэт ад бруду», «Каляровая рэвалюцыя пабеларуску».

Кар'ера рухалася паспяхова, бо ў 2005-м яго перавялі дарадцам у галоўнае ідэалагічнае ўпраўленне Адміністрацыі прэзідэнта. Тут Бузоўскі-малодшы затрымаўся на пяць гадоў.

### Выхавальнік маладых чэкістаў

Чым займаўся Бузоўскі-старэйшы? Імёны кадэбэшнікаў, нават самых высокіх, рэдка фігуруюць у прэсе. Праца патрабуе цішыні. Але Іван Іванавіч «засвяціўся».

«Пасля праходжання школы КДБ па лініі знешняга назірання я быў накіраваны ў 7-е ўпраўленне... Маім непасрэдным кіраўніком быў Іван Бузоўскі, начальнік аддзела КДБ, — пісаў былы работнік спецслужб Ігар Лазарчук, які ў 2000-я ўцёк з

## Сцісла

### Бензін падаражэў

Першае за 2015 год павышэнне цэнаў на аўтамабільнае паліва склала ў сярэднім 4,7%. Бензін А-92 цяпер каштуе 11 100 рублёў, А-95 — 11 900, а салярка — 12 300. Паводле разлікаў нафтавікоў, літр паліва ў Беларусі павінен каштаваць адзін даляр. Паліва ў Расіі цяпер каштуе на 40% танней.

### Статкевіч этапаваны ў Шклоўскую калонію

Экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі пераведзены з магілёўскай турмы № 4 у шклоўскую калонію № 17. Палітык быў асуджаны на шэсць гадоў пасля Плошчы-2010.

### Андрэй Кім ажаніўся

28-гадовы былы палітвязень Андрэй Кім пабраўся з 22-гадовай Надзеяй Рындзевіч. Яны абое — евангельскія хрысціяне, хадзілі ў адну царкву.

### Паў-Беларусі неспрыяльныя для сельскай гаспадаркі?

Урад вызначыў пералік раёнаў, якія адносяцца да «неспрыяльных для вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі». У спісе апынуліся 62 з 118 раёнаў, перадусім на Віцебшчыне і Магілёўшчыне. Прычым нібыта не родзіць зямля нават на Століншчыне.

### Затрыманых на канцэрце асудзілі на 10 сутак арышту

Падчас панк-канцэрта ў клубе «Піраты» ў залу забег нарад АМАПа. Трох слухачоў затрымалі, іх абвінавацілі ў лаянцы, а дваіх з іх яшчэ і ў распаўсюдзе «экстрэмісцкай літаратуры». Дзяўчына атрымала штраф — 1,8 мільёна рублёў, а хлопцы — па 10 сутак.

**ям**



### Самае чытанае на nn.by за 7—13 студзеня

1. «Яно»: як магілёўская газета зрабіла пачварай сціплага вясковага транссэксуала
2. У Беларусі забароненыя этыкеткі на беларускай мове?
3. Рэдактар расійскага выдання «Спутнік і погром» заклікае знішчыць Беларусь, Украіну, Казахстан
4. Самыя папулярныя беларусы «УКантакце»: хто яны і хто іх чытае
5. Максім Галкін ў Кіеве феерычна парадзіраваў Пуціна, Януковіча, Лукашэнку
6. Нацбанк абвесціў новую эканамічную палітыку: рубель адпраўляецца ў свабоднае плаванне
7. Жоўтае мора БелАЗаў: складскія запасы ў Жодзіне. ФОТА з верталёта
8. Аблава ў цэнтры Мінска: АМАП разганяе панк-вечарыну
9. «Патлумачце расейскім турыстам, што ў нас на запраўках і па дарозе бясплатныя чыстыя прыбіральні з мылам і паперай»
10. Аляксей Дзермант вучыць, «як нейтралізаваць вышыванычны бум»

# галоўным беларускім ідэолагам

**Ігар Бузоўскі**

Нарадзіўся ў 1972 у вёсцы Кашалёва Навагрудскага раёна.

Скончыў Мінскае вышэйшае ваеннае камандное вучылішча (1993) і Расійскую акадэмію дзяржаўнай службы пры прэзідэнце Расіі (2005).

У 1993—1994 служыў афіцэрам у войску, у 1994—1998 працаваў у Цэнтры пазашкольнай работы ўпраўлення адукацыі Навагрудскага райвыканкама.

У 1998—2002 займаў кіруючыя пасады ў моладзевых грамадскіх арганізацыях, у 2002—2003 працаваў на БТ, у 2003—2005 — другі сакратар БРСМ.

У 2005—2010 працаваў дарадцам у Адміністрацыі прэзідэнта, у 2010—2014 — першы сакратар БРСМ. З 2014 — намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

Жанаты, мае сына.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Ігар Бузоўскі пераняў эстафету галоўнага ідэолага краіны ў Аляксандра Радзькова

Беларусі ў Бельгію і папрасіў палітычны прытулак.

«Нас прыцягвалі не толькі для барацьбы з крыміналам, але і для працы на мітынгах... Нас арыентавалі на лідараў апазіцыі. Назіранне і даклад за іх дзеяннямі. А таксама за актыўнымі ўдзельнікамі акцый», — расказваў Лазарчук.

Цяпер ад актыўнай працы ў спецслужбах Іван Бузоўскі адышоў. «Я ўжо на пенсіі, — расказваў некалькі гадоў таму палкоўнік. — Але працую ў Інстытуце нацыянальнай бяспекі краіны, а таксама ўзначальваю ветэранскую арганізацыю, якая займаецца выхаваннем маладых чэкістаў».

Інстытут нацыянальнай бяспекі (ІНБ) пры КДБ — тая самая ўстанова, на тэрыторыі якой у цэнтры Мінска быў усталяваны «помнік чэкістам» з барэльефнай выявай Фелікса Дзяржынскага.

Актыўнасці старэйшаму Бузоўскаму не займаць — на папярэдніх прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах ён запісваўся ў выбарчую камісію.

Летась «прадстаўнік дзяржбяспекі Іван Бузоўскі» нават выступаў на прафсаюзнай спартакіядзе. Спрабаваў свае сілы ў більярдзе, але стаў толькі 19-м з 25 удзельнікаў.



BRSM.BY

На старых здымках ідэолага не пазнаць.



VK.COM

Сын ідэолага Андрэй Бузоўскі.

### Чым запомніцца Бузоўскі ў БРСМ?

У 2010 Ігар Бузоўскі ўзначаліў БРСМ — моладзевую арганізацыю, якая налічвае паўмільёна чальцоў.

Пад яго кіраўніцтвам прайшлі два запамінальныя флэш-мобы. Каля ўваходу на Камароўку актывісты правялі перформанс «Спецыяльна для НТВ!». Яны ўсталявалі імправізаваны тэлевізар з застаўкай «Асцярожна! Смярдзіць канал НТВ!». Інфармацыйная нагода — дакументальны фільм «Хросны бацька», прысвечаны Аляксандру Лукашэнку. Дарэчы, у эфіры «НТВ-Беларусь» фільм так і не паказалі.

Акрамя таго, на тле газавых войнаў паміж Беларуссю і Расіяй актывісты правялі здзеклівую акцыю «Дапаможам, чым можам, расійскаму «Газпрому».

Раней саюз дамогся таго, што пры паступленні ў ВНУ сілавых структур пры іншых роўных перавага аддаецца абітурыенту з рэкамендацыяй ад БРСМ. Больш за тое, Лукашэнка прапаноўваў улічваць рэкамендацыю БРСМ пры працаўладкаванні ў праваахоўныя органы.

Балючае пытанне — дзяржаўнае фінансаванне арганізацыі. З дня заснавання БРСМ Лукашэнка перыядычна ўздымае пытанне аб самаакупнасці арганізацыяй. З 2010 датацыі з бюджэту перавысілі $20 мільёнаў. На крытыку, што БРСМ з'ядае практычна ўвесь аб'ём фінансавання на маладзёжную палітыку, Бузоўскі заяўляў, што яго арганізацыя заўсёды падтрымлівала ідэі прэзідэнта і ўрада.

### «Камсамол — наша плоць і кроў»

Ігар Бузоўскі атрымаў вайсковую адукацыю, але, па словах сваякоў на малой радзіме, куды больш яму падабалася быць масавікам-забаўнікам. Ці ўдалося яму знайсці супольную мову з моладдзю?

Тры гады таму ён заяўляў, што БРСМ адкрыў каля 500 блогаў, каб супрацьстаяць «бруду і хлусні, якая распаўсюджваецца ў сетцы». Аднак сам Бузоўскі так і не стаў актыўным карыстальнікам сацыяльных сетак. Зрэшты, любую інфармацыю пра яго на сайтах незалежных выданняў з задавальненнем каментуе армія прыхільнікаў: «Ігар Бузоўскі — сапраўды годная кандыдатура! Поспехаў яму і высокіх дасягненняў!», «Новыя прызначэння — новыя планы. Новыя перспектывы. Спадзяюся, што чыноўнікі не падвядуць», «Новыя людзі — новыя ідэі! Жадаем поспеху і высокіх дасягненняў!». На крытычныя пытанні ад моладзі лідар БРСМ рэагуе даволі рэзка. Калі на адной з сустрэч студэнт падняў пытанне, ці патрэбны абавязковы прызыў у войска, Бузоўскі яго адразу асадзіў: «Калі заўтра злачынец уварвецца ў тваю кватэру, ты што будзеш рабіць? Міліцыю выклічаш? Кожны мужчына павінен сам пастаяць за сваю сям'ю!»

Пра сябе Бузоўскі кажа, што ён «не тусоўшчык». Яму куды камфортней казаць пра арганізацыю з прывязкай да камсамола. «Гэта наша плоць і кроў», — заявіў ён у адным з інтэрв'ю.

### Чыноўнік з трыма пасадамі

Ігар Бузоўскі стаў лідарам БРСМ у 37 гадоў. Пры гэтым верхняя ўзроставая мяжа для сяброў арганізацыі — 31 год.

Зрэшты, нават пасля прызначэння на пасаду намесніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Бузоўскі нібыта застаецца першым сакратаром. Прэс-сакратар саюза патлумачыла, што гэта выбарная пасада, аднак адмовілася адказаць, ці будзе разглядацца новая кандыдатура на найбліжэйшым з'ездзе.

Дарэчы, наконт новага з'езда БРСМ. Бузоўскі казаў, што ён мае прайсці напрыканцы 2014-га. Аднак гэтага так і не адбылося. Паводле статута арганізацыі, першы сакратар абіраецца менавіта на з'ездзе. Тэрмін яго паўнамоцтваў — тры гады. Папярэдні з'езд прайшоў у снежні 2011-га.

У Бузоўскага ёсць і трэцяя пасада — член савета рэспублікі. Па словах начальніка сакратарыята Сяргея Бервіна, сенатар працягне працу ў камісіі па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльным развіцці. Праўда, за наведванне пасяджэнняў у верхняй палаце парламента чыноўніку не плацяць.

...Доўгія гады сімвалам роднай вёскі Кашалёва было велізарнае дрэва, якое расло на скрыжаванні з дарогай на Навагрудак. У яго гонар нават назвалі прыпынак — «Дуб». Аднак у дрэва трапіла маланка, і яно прапала. Мясцовыя жыхары спрабавалі пасадзіць новы дуб, але ўсё марна.

Тады да справы падключыўся БРСМ. Паводле задумы Бузоўскага, дуб мусіў стаць сімвалам пераемнасці камсамола, які «вытрымаў, абнавіўся і сёння дзейнічае як БРСМ».

На ўрачыстую пасадку прыехаў і бацька Бузоўскага. «Такім інструментам, як рыдлёўка, ён валодае віртуозна», — адзначала мясцовая прэса. «Любіць у нас пакрасавацца Іван Іванавіч», — смяюцца мясцовыя жыхары.

Урачыстая цырымонія скончылася, ідэолагі раз'ехаліся. А сімвал пераемнасці зноў засох.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**

# «Яно»: як магілёўская газета зрабіла

У невялікай вёсцы Макарынцы пад Магілёвам адбылося абрабаванне. Скралі 10-літровую бутлю з віном і чатыры кіло фаршу з хаты немаладой жанчыны. Суд прызнаў вінаватым 44-гадовага мужчыну суседа Аднак, калі яго затрымала міліцыя, высветлілася, што мужчына да пэўнага ўзросту быў жанчынай, а пасля зрабіў аперацыю па змене полу. Ну, здавалася б, свет вялікі і Беларусь не малая — усякае бывае.

Але ад гэтага выпадку ў рэдакцыі газеты «Вечерній Могілев», як той казаў, «няхіла бамбанула».

Карэспандэнты «Нашай Нівы» адправіліся ў Магілёўскую вобласць, каб самім пазнаёміцца з удзельнікамі гэтай гісторыі.



35 дзён Дзмітрый правёў у адзіночнай камеры следчага ізалятара

Дзмітрый збіраецца пераязджаць з вёскі — кажуць, міліцыя жыцця яму не дасць.

### «Яно»

Сам артыкул быў надрукаваны яшчэ восенню, аднак усебеларускую вядомасць набыў толькі ў пачатку студзеня, калі галоўны рэдактар партала Onliner.by Дзяніс Блішч выклаў у «Фэйсбуку» спасылку на гэты «шэдэўр» з допісам: «Найгоршы артыкул у гісторыі журналістыкі».

Грамадства, вядома, пачало цікавіцца, што ж там такое, і, трэба шчыра прызнаць, Блішч меў рацыю. Бо з крымінальнай нататкі ці паведамлення аб незвычайным выпадку тэкст паступова ператвараецца ў пафасную бязглуздзіцу. Аўтары — Вікторыя Карпава і Васіль Стасаў — змешваюць абвінавачанага з брудам, не цураючыся моцных выразаў, і, канечне ж, вінавацяць ва ўсім распусную Еўропу. Стасаў і Карпава называюць чалавека «яно». Ну а што ж вы думалі, гэта на Захадзе «такім» шмат чаго дазволена! А ў нашай краіне, па выразе магілёўскіх журналістаў, «блакітнае лобі» знаходзіцца пад каўпаком з боку кіраўніцтва краіны». Маўляў, тут ужо не забалуеш!

Цікава, што ў якасці крыніцы інфармацыі аўтары спасылаюцца на суддзю Станіслава Леўчанку, які, як стала вядома, не толькі цёзка галоўнай рэдактаркі «Вечернего Могілёва», але і раней працаваў у газеце юрыдычным кансультантам. У Байнэце адразу папаўзлі чуткі, што менавіта ён хаваецца пад псеўданімам Васіль Стасаў і з'яўляецца сынам рэдактаркі.

Увогуле, артыкул прасякнуты такім чалавеканенавісніцтвам, што пасля яго прачытання наўпрост хочацца неяк змыць з сябе ўвесь гэты бруд.

Як, дарэчы, і пасля гутаркі з рэдактаркай «Вечернего Могілёва».

### «Не трэба мяне выхоўваць!»

«Напісана ў нармальных выразах, мы пра ўсіх так пішам.

Транссэксуальнасць — гэта медыцынскі тэрмін. Гэта калі чалавек адчувае сябе асобай не таго полу, які ў яго анатамічна. Транссэксуальнасць, як сцвярджаюць медыкі, не звязана з сэксуальнай арыентацыяй.

Транссэксуальнасць афіцыйна прызнана хваробай, адзіны спосаб лячэння якой — аперацыя па змене полу, якую робяць пасля некалькіх гадоў назірання і старанных аналізаў.

Усе так пішуць, — пацiскае плячыма рэдактарка газеты Надзея Леўчанка. — «Педэраст» і «транссэксуал» — розныя паняцці? Ды ну, прыкладна тое ж самае — для мяне няма розніцы».

Невысокая жанчына сярэдніх гадоў прымае нас у сваім кабінеце, сцены якога завешаны шматлікімі дыпломамі. За спінай рэдактаркі — дыван у выглядзе беларускага дзяржаўнага сцяга з прычэпленай да яго георгіеўскай стужачкай. На тле яго Леўчанка глядзіцца вельмі каларытна. На жаль, фатаграфавацца рэдактарка катэгарычна адмовілася.

«Гэта мой артыкул. А пазначаны іншыя людзі, таму што мы працавалі разам з карэспандэнтамі, — распавядае Леўчанка. — І ў ім галоўнае, што ў сям'і алкагаліка, злодзея і чалавека невядома якой арыентацыі выхоўваюцца тры непаўналетнія дзяўчыны».

На пытанне аб тым, што за апісаннем «еўрапейскіх жахаў» у артыкуле не відаць тых дзяцей (а «выкрыццё» транссэксуала можа адбіцца на іх лёсе), Леўчанка ізноў паціскае плячыма: «Чытайце правільна».

«У нас нармальны, добры выйшаў артыкул. Інфармацыйны, — кажа яна. — Непавагі да асобы там аніякай няма. Абсалютна. У нас свабода слова. Што тычыцца падрабязнасцей — мы ж не сказалі, хто ён. Ну і што, што вёска пазначаная? Ён жа і сам усяго гэтага не адмаўляе. І чаму вы і іншая апазіцыйная прэса раптам усе забегалі? Гэты чалавек нармальна сябе адчувае, нармальна пра сябе расказвае, што ён такое і што з ім рабілі. Таму не трэба мяне выхоўваць».

Што тычыцца сваяцтва з суддзёй і ягонага ўдзелу ў напісанні артыкула, Леўчанка кажа толькі: «Аўтар — не мой сын. Гэта пустыя чуткі».

У адказ на наступнае пытанне — ці гуманна называць жывога чалавека «яно» — рэдактарка спачатку адмаўляецца працягваць гутарку. А потым пытаецца: «Чаму вас гэта цікавіць? Вы што, прадстаўнікі меншасцяў?»

Па словах Леўчанкі, газета і яе супрацоўнікі імкнуцца развіваць нармальнае, здаровае грамадства. А пужаюць у артыкуле сатаной, бо прытрымліваюцца праваслаўных традыцый і прасоўваюць праваслаўныя каштоўнасці.

«Да нас пастаянна прыходзяць водгукі на матэрыялы. І на гэты артыкул былі — усе з асуджэннем гей-прапаганды», — кажа рэдактарка.

Што такое гей-прапаганда і якое дачыненне яна мае да ўсёй гэтай гісторыі, Леўчанка тлумачыць не хоча.

«Што мне, вам правесці лікбез? Спытайцеся ў іншым месцы».

«Як скажаце», — падумалі мы і паехалі ў Макарынцы.

### Сумным чынам вядомая знакамітасць

Макарынцы — невялікая вёска за 15 км на ўсход ад Магілёва. Жыве ў ёй каля трохсот чалавек. Вёска як вёска — не надта квітнее, але і паміраць не збіраецца. Моладзь, канечне, не затрымліваецца, тым больш што абласны цэнтр зусім побач, але астатнія не з'язджаюць.

Знайсці героя артыкула аказалася зусім не складана. Што ж вы хочаце — вёска.

«Пра артыкул той я чула, — кажа першы ж запытаны чалавек — прадавачка мясцовай крамы Кацярына. — Нечакана, канечне. Здаецца, мужык як мужык, хіба толькі невялікага росту. А тут такое!»

Кацярына і накіроўвае нас да Дзмітрыя — так завуць цяпер ужо галоўную знакамітасць Макарынцаў. Невялікі двухпавярховы дом на два пад'езды. Спачатку мы блытаем кватэру і трапляем на суседа. «Сашка», — называецца ён.

«Дзіма — ён такі ціхі, я не бачыў ніколі, каб ён мацюкаўся, крычаў ці лаяўся, — распавядае Сашка. — П'е? А хто не п'е? Але ў бойкі не лезе. Баіцца хлопцаў — калі нехта гаркне, то за бабу сваю хаваецца. Але дрэннага сказаць нічога не магу».

Пра артыкул у «Вечернім Могілёве» наш суразмоўца нічога не ведае. «Я газет не чытаю», — прызнаецца ён.

Нарэшце знаходзім патрэбныя дзверы. Адчыняе сужыцелька Дзмітрыя, Марына, побач з ёй адразу з'яўляюцца дзве малодшыя дачкі. Жанчына сцвярджае, што Дзмітрыя няма — з'ехаў у Магілёў.

**Вытрымкі з артыкула «Вечернего Могилёва»**

«Изначально «оно» было девочкой и даже имело имя Наталья. Однако после распада СССР, на волне всеобщей распущенности, когда мощным потоком из Запада к нам хлынул педерастический элемент, Наталья, не устояв перед искушением, решила из слабого пола стать сильным и легла под нож…»

«Первое, что в 90-х сделало «оно», — нашло спутницу жизни и связало себя с нею узами Гименея»

«Итог на сегодня — плаксивое и гермафродитное существо, которое, по материалам дела, не слазит со стакана, крадет у своих же односельчан, как заматерелый бич, и при этом умудряется сожительствовать с себе подобными. Хотя, справедливости ради, собственных детей иметь не может»

«Сегодня за красивой упаковкой под названием секс-меньшинства, которую продвигает и активно нам навязывает Евросоюз, скрывается сатана и не без удовольствия наблюдает, как люди на земле сами себе создают второй Содом».

«Дзе ён і як звязацца — не ведаю, — кажа яна. — А з журналістамі размаўляць не буду».

Аднак завязаць гутарку ўсё ж удаецца.

«Я той артыкул чытала. Гэта ўсё лухта. І бабулю ён не рабаваў. Яго напужаў следчы Бяляўскі, вось ён і падпісаў усё, што трэба было, — даказвае жанчына. — А ў тую хату і дзве суседнія раней лазілі мясцовыя дзеці, узялі там дробязь: кніжку, пачак цыгарэт, цукеркі, гарэлку, нешта яшчэ. Іх знайшлі, яны прызналіся. І на гэты раз, напэўна, яны былі, бо там такія фортачкі, што ні я, ні Дзмітрый проста не пралезлі б. Да таго ж, у бабкі той скралі фарш, а мы ў той жа дзень



«МАЯК ПРЫДНЯПРОЎЯ»

Галоўны рэдактар «Вечернего Могілёва» Надзея Леўчанка. Фатаграфавацца для «НН» катэгарычна адмовілася.

# пачварай сціплага вясковага транссэксуала



Алена здолела знайсці два фотаздымкі — усё, што засталося ў яе на памяць ад жыцця з Дзмітрыем.

набылі ў суседняй вёсцы таксама фаршу на восемдзесят тысяч. Дык туды міліцыя ездзіла, прадавачка гэта пацвердзіла. Але ўсё роўна ўсё павесілі на Дзіму. Нічога не дакажаш».

Сама Марына працуе даяркай. Чуткі аб праблемах з алкаголем, канечне, абвяргае. Але пра тое, што ў яе забіралі дзяцей, з неахвотай кажа: «Было. Але сем гадоў таму!»

Марына расказвае, што раней Дзмітрый жыў у гэтым жа доме з былой жонкай. Тая цяпер жыве з новым мужам на іншым канцы вёскі, у «чацвёртым пасёлку».

### «Людзі як людзі»

Нас сустракае стары нефарбаваны драўляны дом з нечаканымі пластыкавымі еўравокнамі. Ля ганка — кананічны брахлівы сабака. Алена, былая жонка Дзмітрыя, запрашае нас увайсці. Яе цяперашні муж, Юрый, чуе, аб чым мы хочам пагаварыць, і сыходзіць у пакой глядзець з малодшым дзіцём мультфільм.

«Мы пазнаёміліся з Дзмітрыем у 96-м годзе ў Магілёве. Яшчэ праз год — распісаліся. Жылі сабе і жылі, як усе, — успамінае Алена. — Але хутка ад суседзяў пайшлі чуткі, што раней ён быў дзяўчынай. Шнары ў яго я бачыла, канечне, але ён казаў, што гэта ад аперацый, ад якіх — не тлумачыў, а я і не ўдакладняла. Што мне там было, сямнаццаць гадоў. Потым ён прызнаўся, што так, гэта ўсё праўда».

Але на адносіны Алены да мужа яго прызнанне ніяк не паўплывала.

«Жылі мы з ім нармальна. Амаль пятнаццаць гадоў разам. А тое, што быў жанчынай, — ну што ж ты тут зробіш. Тым больш ён не адзін такі. Толькі ў Магілёве — пяць ці шэсць чалавек. Мы сустракаліся з Дзімавымі знаёмымі, якія таксама мянялі пол. Людзі як людзі. Я была знаёмая і з яго бацькам, і з двума братамі. Усе яны нармальна да яго ставіліся, нягледзячы на тую аперацыю».

Праз некалькі гадоў Дзмітрый з Аленай пераехалі ў Макарынцы. Ён працаваў на ферме пастухом, скотнікам. Алена працавала даяркай. Атрымалі хату ад калгаса. Але пацыху ўсё разбурылася. Алена зацяжарыла ад іншага мужчыны, у Дзмітрыя пачаўся раман з Марынай. Пара развялася.

Што тычыцца гісторыі з абрабаванай бабуляй, то Алена таксама не вельмі верыць у віну свайго былога мужа. Але ж хутка пасля абрабавання Дзмітрыя затрымалі, ён трапіў у РАУС. Неўзабаве па вёсцы папаўзлі чуткі пра яго жаночае мінулае. Як кажа Алена, пайшлі яны ад участковага міліцыянта.

«Я казала ўчастковаму Маскалёву: вы ўвогуле ведаеце, што такая інфармацыя не агалошваецца? А вы прыехалі ў калгас, пайшлі да старшыні і ўсё гэта гаворыце. І потым у мяне яшчэ пытаецеся. Гэта прыватная справа Дзмітрыя, яго жыццё. Гэта нікога не павінна хваляваць».

Хутка, сцвярджае Алена, пра пол былога мужа ў яе пачалі пытацца і на працы. Затым з'явіўся той самы артыкул. Пытанняў стала яшчэ больш.

«Нават да пяцігадовай дачкі дайшлі чуткі — прыходзіць і кажа: мама, а што, тата быў дзяўчынкай? Я, канечне, ёй нічога расказваць не стала, — кажа Алена. — Аднак я ўпэўненая, што ўся гэтая інфармацыя ўсплыла дзякуючы міліцыі. Бо раней была гісторыя з аліментамі. Ад першага шлюбу ў Дзімы ёсць дачка, ужо дарослая, яе біялагічны бацька, вядома, не Дзмітрый. Але яна запісаная на яго. Дык ён плаціў аліменты ўвесь час. Потым былі праблемы, з'явілася запазычанасць. Дзіма спрабаваў даказаць, што бацька не ён, ездзілі нават у Мінск, да дактароў, якія рабілі яму аперацыю, аднак яны адмовілі. Сказалі, што інфармацыя пра змену полу нідзе не агалошваецца. Калі дзяўчына па дакументах лічыцца ягонай дачкой — павінен плаціць. Звярталіся ў суд, але ўсё безвынікова. Дзмітрыю нават давялося адсядзець кароткі тэрмін з-за той запазычанасці па аліментах. Але пра тое, што ён быў жанчынай, ніхто не ўзгадваў. Вось толькі цяпер, пасля гэтай справы, пачаўся шум. Трапіў у нашае магілёўскае РАУС — і пайшло».

Аднак, па словах Алены, Дзмітры нікуды не з'ехаў — два дні таму яна бачыла яго ў вёсцы. Мы паспрабавалі яшчэ раз зайсці да яго з Марынай. І на гэты раз дзверы адчыніў сам Дзмітрый. На просьбу пагутарыць пагадзіўся адразу: «Заходзьце».

### Простае няпростае жыццё

«Тое, што я не дзяўчынка, я разумеў усё жыццё. Гадоў з шасці я ўжо адчуваў сябе хлопцам. І ў школе ў мяне не было кавалераў і не хацелася іх мець. Дый сябраваў я з хлопцамі, а не з дзяўчатамі. Была адна дзяўчына, сапліва такая, яе крыўдзілі пастаянна. Дык я яе нават абараняў, — успамінае Дзмітрый. — Пасля школы я пачаў апранацца як мужчына, стрыгчы валасы. Нават уладкаваўся на мужчынскую працу — займаўся ізаляцыяй труб. Пра мой пол ведаў толькі аддзел кадраў. Яны маўчалі. А мужыкі, калегі, думалі, што я хлопец».

Дзмітрый расказвае сваю гісторыю, стоячы ў цёмным калідоры. Ён кажа, што стары дзіравы дом пастаянна залівае, таму лямпачкі ўвесь час перагараюць.

Хутка Дзмітрый пазнаёміўся з дзяўчынай. Яны пачалі сустракацца. Але калі каханая даведалася, што сустракаецца таксама з пакуль яшчэ дзяўчынай, яе гэта не напалохала. Вырашылі збіраць грошы на аперацыю, а потым пабрацца шлюбам. Даведаліся, што ў Магілёве быў ужо чалавек, які змяніў пол. Знайшлі яго, пагаварылі. І калі ён ехаў да дактароў наступны раз, то ўзяў з сабою і Дзмітрыя.

І ў 95-м годзе Дзмітрый ужо сам паехаў у Бараўляны на аперацыю. Пры замене дакументаў, дарэчы, ён і абраў сённяшняе імя — кажа: будучая жонка параіла, ёй вельмі падабалася. У якасці мужчыны Дзмітрый нават атрымаў ваенны білет, у якім пазначана «не служыў па хваробе».

«На той момант аперацыя каштавала каля тысячы даляраў. Плюс потым гармоны яшчэ калоць — раз на месяц, у адзін і той жа дзень. Але я зарабляў нармальна, сума была пад'ёмная. Не тое, што сёння — нават на гармоны няма грошай. Працую скотнікам, там зарплата калі семсот тысяч, калі мільён... Плюс яшчэ гэты новы закон, пакуль трапіш да сэксапатолага, пакуль атрымаеш рэцэпт...» — уздыхае Дзмітрый.

Але сямейнае жыццё не склалася. Жонка пачала хадзіць «налева». Праз нейкі час Дзмітрый быў

**«У 1995-м аперацыя каштавала каля тысячы даляраў. Плюс потым гармоны яшчэ калоць — раз на месяц, у адзін і той жа дзень»**

вымушаны легчы ў бальніцу — пасля выдалення малочных залозаў з'явіліся пэўныя праблемы. Калі ён вярнуўся дамоў, то даведаўся, што жонка зацяжарыла. Дзмітрый ёй прабачыў, потым, калі нарадзілася дзяўчынка, нават афарміў бацькоўства на сябе. Аднак зберагчы сям'ю не ўдалося — яны развяліся.

Неўзабаве ён сустрэў Алену — тую самую, з якой пражыве амаль 15 гадоў. Пажыўшы некалькі гадоў у Магілёве, яны вырашылі пераехаць у Макарынцы, дзе жылі Аленіны бацькі. Што было далей — ужо вядома.

### Ці злачынца, ці ахвяра

Крадзеж наш суразмоўца адмаўляе, наракае, што оперупаўнаважаны Бяляўскі прымусіў «узяць яго на сябе».

«Бяляўскі хацеў, каб я паведамляў яму, што тут адбываецца: казаў пра крадзяжы, ну і гэтак далей, — сцвярджае Дзмітрый. — Чаму ён прычапіўся да мяне — не ведаю. Казаў: на зону сядзеш, будуць там цябе «ва ўсе шчыліны». Дзяцей пагражаў забраць», — сцвярджае Дзмітрый.

«14 лістапада павінен быў быць суд. Я не ведаў. Позвы не было. Проста ўчастковы Маскалёў прыехаў а першай ночы і кажа — бяры шапку і пашпарт, паехалі. Кажа: арышт», — распавядае Дзмітры.

У выніку 35 дзён ён правёў у следчым ізалятары. Сядзеў увесь час у адзіночнай камеры. Потым, у снежні, адбыўся суд. На ім не было нават адваката. Але Дзмітрый трапіў пад амністыю, пастанавілі кампенсаваць страты — 750 тысяч — і адпусцілі. Новы год ён сустракаў ужо дома.

Вось такая гісторыя. Пагутарыць з пацярпелай бабуляй немагчыма — яна ўжо памерла. Участковага Маскалёва знайсці не ўдалося. А оперупаўнаважаны Васіль Бяляўскі, само сабой, усе абвінавачванні Дзмітрыя абвяргае.

«Я яго не біў, не пагражаў. Праводзілася праверка, і нічога не знайшлі, — сказаў следчы. — Да распаўсюду інфармацыі пра яго пол я таксама не маю ніякага дачынення».

Але ж, як паведаміў «Нашай Ніве» праваабаронца Раман Кісляк, калі міліцыянты сапраўды распавялі журналістам пра змену полу, то гэта безумоўнае парушэнне: «Гэта артыкул «Раскрыццё прыватнага жыцця». Трэба падаваць у суд. Аніякага права распавядаць такія дэталі ў міліцыянтаў не было. Дарэчы, калі інфармацыя трапіла ў газету да таго, як быў вынесены прысуд, то гэта таксама парушэнне, і сур'ёзнае».

Жыхары вёскі, якія чыталі артыкул, таксама абураны такой журналісцкай працай.

«Мы былі ў шоку, калі гэта прачыталі, — кажа Руфія Рушанаўна, выхавацелька мясцовага дзіцячага садку. — Пра людзей так пісаць нельга!»

Вось толькі сам Дзмітрый ставіцца да сваёй долі ці то па-філасофску, ці то проста абыякава. Пасля збіцця пабоі ён не здымаў. Паперы з адказам з пракуратуры знайсці так і не змог — адшукаўся пусты канверт. Нават артыкул той ён не чытаў — толькі чуў аб ім з чужых словаў. Дый падаваць у суд на газету не хоча: маўляў, няма на гэта грошай. Але ж у хуткім часе, прызнаецца Дзмітрый, ён са сваёй ужо трэцяй сям'ёй плануе з'ехаць з Макарынцаў.

«Мне нават начальнік турмы сказаў — з'язджай. Змагацца з Бяляўскім сэнсу няма, кажа, ён табе жыцця не дасць, — тлумачыць Дзмітрый. — Так што, напэўна, паеду ў іншую вёску. Дый што тут? Хоць бы быў дом добры, але ж і яго няма. Як жывём — самі бачыце».

Так, мы бачым. Бачым напаўразбураную кватэру з вялікай лужынай у адным з пакояў, дзе працякла батарэя.

Пры гэтым ніхто з нашых вясковых суразмоўцаў нічога дрэннага пра Дзмітрыя не казаў. І сам ён ніякіх зменаў у стаўленні да сябе не заўважыў. «Жыву сабе як жыў», — кажа ён.

Хочацца, канечне, каб ён пачаў жыць як чалавек. Бо ён усё ж такі чалавек. Далёка не ідэальны. Але ж жывы.

Ён чалавек. Вы чуеце, Надзея Леўчанка?

**Улад Швядовіч, фоты Кірылы Хілька, Магілёў—Макарынцы—Мінск**



Дом, у якім жыве сям'я Дзмітрыя, у аварыйным стане.

# Кнігарню «Логвінаў» засудзілі на 1 млрд рублёў

9 студзеня Эканамічны суд Мінска было вынес рашэнне па кнігарні «Логвінаў», якую вінавацілі ў продажы кніг без ліцэнзіі Мініінфармацыі.

Прынята рашэнне аштрафаваць кнігарню на 30 базавых велічыняў (5 млн 400 тыс. рублёў), а таксама канфіскаваць выручку з абароту на суму 961 млн 251 тыс. 353 рублі. Рашэнне можа быць абскарджана цягам 10 дзён.

Ігар Логвінаў даводзіў суддзі, што амаль мільярд — гэта не прыбытак, а сума абароту. А кнігарня рэальна працуе «ў нуль». Суддзя Кулакоўскі звярнуў увагу, што згодна з КоАП, пад прыбыткам ад незаконнай дзейнасці маецца на ўвазе ўся сума выручкі. Таму апеляцыі Логвінава не маюць падстаў.

Суддзя цікавіўся, чаму Логвінаў не абскарджваў адмовы Міністэрства інфармацыі раней, а толькі апошнюю. Ігар патлумачыў тым, што гэта патрабуе дадатковага часу, прыцягнення працы спецыялістаў. Таму палічыў, што прасцей будзе выправіць прэтэнзіі міністэрства.

Цяпер кнігарня афармлена не на Логвінава, а на іншую юрыдычную асобу. Ігар спадзяецца, што гэта ўсё-такі дазволіць атрымаць ліцэнзію і кнігарня працягне працу.

**Сяргей Макарэвіч**

# КДБ Беларусі затрымаў 20 мусульман-салафітаў

Іншаземныя грамадзяне з ліку іх былі **выдвараныя з Беларусі**.

Затрыманне адбылося ў канцы мінулага года пад Мінскам, у Калядзічах. Паслядоўнікі руху сустракаліся там у адным з дамоў.

«КДБ з МУС падчас правядзення рэлігійных абрадаў затрымаў 20 мусульман-салафітаў, рэлігія якіх заснавана на прынцыпах джыхаду і непрыняцця любых веравызнанняў, акрамя ісламу», — заявіў кіраўнік прэс-службы КДБ Артур Стрэх. Восем з затрыманых былі замежнікамі.

«Гэтая група сфармавалася пад уплывам замежных місіянераў адной з арабскіх экстрэмісцкіх арганізацый», — расказала беларускае тэлебачанне. Пры гэтым адзначаецца, што гэтыя людзі «пачалі пераконваць мусульман-беларусаў у нетрадыцыйных для веры дзеяннях, для чаго і літаратура адпаведная была, якая, дарэчы, прызнаная экстрэмісцкай».

«Затрыманыя замежныя грамадзяне за парушэнне заканадаўства Беларусі выдвараны з краіны», — паведаміў Стрэх.

Паводле звестак тэлеканала «Беларусь-1», дзейнасць групы выклікала абурэнне мусульманскай супольнасці краіны.

Татары-мусульмане жывуць у Беларусі з XIV стагоддзя. Тады прытулак ім даў вялікі князь Вітаўт. Узамен яны служылі ў войску. Ім было дазволена жаніцца з беларускамі. Татары хутка перайшлі на беларускую мову. Іх святыя кнігі аддаўна былі напісаныя беларускай мовай, але арабскімі літарамі. Яны спавядаюць памяркоўную версію ісламу.



**Салафіты пранікаюць і ў Еўропу. На фота: нямецкія прыхільнікі радыкальнага ісламізму. Злева — баксёр П'ер Фогель, які перайшоў у іслам у 2001 годзе.**

З татараў выйшлі дзясяткі выдатных дзеячаў беларускага грамадства і культуры, у тым ліку палкоўнік Беларускай Народнай Рэспублікі Гасан Канапацкі і будзіцелі нацыі браты Луцкевічы.

У апошнія гады ў краіне дзейнічае таксама ўсё больш мусульманскіх грамадаў, дзе дамінуюць выхадцы з Каўказа і студэнты з арабскіх краін. Мусульманская грамада фінансуюцца пераважна з саудаўскіх і турэцкіх фундацый.

**Сяргей Гезгала**

# Рэдактар расійскага «Спутніка і погрома» заклікае знішчыць Беларусь, Украіну, Казахстан

Галоўны рэдактар папулярнага ў Расіі нацыяналістычнага рэсурса «Спутнік і погром» Ягор Прасвірнін лічыць, што Расія павінна захапіць або знішчыць Украіну, Беларусь і Казахстан.

Пра гэта ён напісаў у сваім артыкуле «За што мы стаім, чаго мы хочам, што будзе і чаго не будзе».

«Нашай мэтай з'яўляецца пабудова рускай нацыянальнай дзяржавы як адзінай формы калектыўнага жыцця, якая спрыяе захаванню рускіх у ліку народаў Першага свету. Часткай пабудовы рускай нацыянальнай дзяржавы з'яўляецца вяртанне Наваросіі, Маларосіі, Беларусіі і Паўднёвай Сібіры (т.зв. «Паўночны Казахстан»), дзе да гэтага часу пражываюць дзясяткі мільёнаў рускіх людзей», — упэўнены Прасвірнін.

«Т.зв. «Украіна», «Беларусія» і «Казахстан» (штучныя дзяржаўныя ўтварэнні, створаныя бальшавікамі) з'яўляюцца чужымі нацыянальнымі дзяржавамі, якія рэалізуюць чужыя нацыянальныя праекты, і рана ці позна тыя рускія, што засталіся ў іх, будуць асіміляваныя ў чужыя нацыі», — напісаў адзін з ідэолагаў рускага імперскага нацыяналізму.

«Спутнік і пагром» — сайт расійскіх нацыяналістаў і шавіністаў. Самае цікавае, што сайт гэты размешчаны ў ЗША. Сайт у апазіцыі да Пуціна, але пры гэтым актыўна падтрымліваў Ігара Стралкова-Гіркіна. Раней падтрымлівалі і Навальнага.

Ягор Прасвірнін вядомы сваімі неадназначнымі заявамі. Напрыклад, ён сказаў, што «22 чэрвеня [дзень нападу Германіі на СССР у 1941] — гэта дзень, калі рускія адмовіліся ваяваць за калгасы і ГУЛАГ».

**Зміцер Панкавец**

**Авяр'янаў-Мінскі сцвярджае, што яго пазбавілі беларускага грамадзянства і забаранілі ўезд у Беларусь**

«Некалькі месяцаў, як я не магу прыехаць у родную Беларусію. А не магу таму, што хтосьці напісаў на мяне данос у КДБ як на дыверсанта і правакатара. Цяпер сітуацыя з маім грамадзянствам такая ж, як у Паўла Шарамета», — напісаў Кірыл Авяр'янаў-Мінскі журналісту «Нашай Нівы». Паведаміць больш інфармацыі ён адмовіўся. Вядома, што ў свой час Паўла Шарамета пазбавілі беларускага грамадзянства праз «атрыманне ім расійскага». Кірыл Авяр'янаў-Мінскі выступаў з праімперскімі публікацыямі на расійскім радыкальным партале «Спутнік і погром». Авяр'янаў-Мінскі пазіцыянуе сябе як гісторыка і знаўцу Беларусі. У сваіх артыкулах ён праводзіць ідэю, што беларусы — штучная нацыя са штучнай культурай і мовай, памылкова адарваная ад «рускага свету». Таксама публіцыст не аднойчы называў Лукашэнку «здраднікам інтарэсаў Расіі».

**Арцём Гарбацэвіч**

# У інтэрнэце пускаюць чуткі, што Макей пойдзе на выбары замест Лукашэнкі

**Фальшывыя «просьбы пра каментары»** на гэтую тэму даслалі Наталлі Радзінай і Аляксандру Фядуту.



Да Фядуты звярнуўся нехта, хто прадставіўся «журналісткай расійскага сайта LifeNews». Ён папрасіў адкаментаваць наступную інфармацыю.

«Як нам стала вядома з надзейных крыніц, Аляксандр Лукашэнка не брацьме ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах. Ён мае намер падтрымаць кандыдатуру Уладзіміра Уладзіміравіча Макея (міністр замежных спраў Беларусі)».

Далей «журналістка» пытаецца: «1. З чым звязана такое рашэнне кіраўніка дзяржавы — не балатавацца на 5-ы тэрмін? Якія наступствы гэта будзе мець для Расіі і расійска-беларускіх адносін? 2. Хто такі Уладзімір Макей? Ці задаволіць Уладзімір Макей Маскву? Увесь мінулы год ён шмат часу правёў у еўрапейскіх краінах. Ці азначае гэта разварот замежнай палітыкі Беларусі? 3. Чаму беларускія ўлады перанеслі выбары на вясну?»

Фядута ў рэзкай форме адмовіўся даваць каментары «Лайфньюс».

Падобную ж дэзынфармацыю даслалі і рэдактарцы сайта Charter97.org Наталлі Радзінай. Журналістка назвала гэты запыт «укідам».

Гэта звыклая сітуацыя перад прэзідэнцкімі выбарамі. Напярэдадні выбараў 2010 года ўкідвалася інфармацыя, што замест Лукашэнкі ўдзельнічаць будзе тагачасны прэм'ер-міністр Сідорскі ці былы міністр унутраных справаў Навумаў.

**Мікола Бугай**

# Аляксей Дзермант вучыць, «як нейтралізаваць вышыванчны бум»

Філосаф Аляксей Дзермант на сайце праекта «Цытадэль» зрэагаваў на феномен папулярнасці вышыванак у Беларусі.

Дзермант прапануе два шляхі, як змагацца з вышыванчнай модай, прапануе рэцэпты па нейтралізацыі буму. «Гэта крытыка прафанацыі і палітызацыі тэмы прадстаўнікамі этнаграфічнай супольнасці і грунтоўная навуковая праца», — піша Дзермант. А вось другі шлях нашмат цікавейшы. Дзермант прапануе дзяржаве перахапіць гэты трэнд «і не дазваляць манаполіі на яе прайдзісветам». «Не трэба забараняць, трэба вырошчваць сваё», — прыходзіць да высновы эксперт.

Праект «Цытадэль» у інтэрнэце спецыялізуецца на цкаванні апазіцыі і нацыянальных сілаў.

**ЗП**



# Небяспечная арыентацыя

У Мінску асудзілі мужчыну, які **пакалечыў гомасэксуала**.

25 мая 2014 Дзмітрый Лукашэвіч адзін раз ударыў 31-гадовага Міхаіла Пішчэўскага, той паваліўся і стукнуўся галавой. Дактары выразалі хлопцу каля 20% галаўнога мозгу. Цяпер Міхаіл знаходзіцца ў вегетатыўным стане.

Гісторыя мела сваю асаблівасць: фактычна хлопца пабілі за тое, што ён гей.

### Двойчы судзімы

Гэты судовы працэс над Дзмітрыем не першы. Па справе збіцця Міхаіла Пішчэўскага яго ўжо асудзілі да 2 гадоў 8 месяцаў калоніі і выплаты 100 мільёнаў рублёў на карысць пацярпелага. Аднак абвінавачванне не задаволілася такім мяккім прысудам. Справу накіравалі на новы разгляд. Пракурор патрабаваў для Лукашэвіча 7 гадоў пазбаўлення волі. У выніку суд прызнаў яго вінаватым у прычыненні цяжкага цялеснага пашкоджання па неасцярожнасці (арт. 155 КК) і хуліганстве (ч. 1 арт. 339 КК) і пакараў 2 гадамі і 8 месяцамі калоніі агульнага рэжыму. Фактычна гэта той самы прысуд, які быў вынесены судом Цэнтральнага раёна 16 кастрычніка і затым адменены Мінгарсудом. Таксама суд абавязаў Дзмітрыя выплаціць 150 млн руб. у якасці маральнай кампенсацыі Пішчэўскаму і 63 млн у якасці аплаты матэрыяльнай шкоды яго маці Валянціне.

У кваліфікацыі дзеянняў Лукашэвіча абцяжарваючымі віну абставінамі так і не стала варожасць да пэўнай сацыяльнай групы — гамафобіі ў збіцці Пішчэўскага суд не знайшоў. Маці і сястра Міхаіла сказалі, што не будуць абскарджваць прысуд — на гэта ў іх «няма сіл».

### Цьмяная гісторыя

Няма адзінай версіі, што адбылося 25 мая. У кожнага свая праўда. Дакладна вядома, што гэтай ноччу Міхаіл Пішчэўскі ў кампаніі двух знаёмых адпачываў у сталічным клубе «Андэрворлд». Калі трое хлопцаў выйшлі з клуба, у іх завязалася спрэчка з іншай групай маладзёнаў. У выніку адзін з іх — Дзмітрый Лукашэвіч — нанёс раптоўны ўдар. Абодва бакі пагадзіліся, што спачатку прагучала абраза «підо...сы», кінутая ў бок кампаніі Пішчэўскага. Далей версіі разыходзяцца.

### «Я спалохаўся…»

Дзмітрый Лукашэвіч — спартовага выгляду малады чалавек. Ён займаўся цяжкой атлетыкай, скончыў Універсітэт фізкультуры. Да зняволення працаваў настаўнікам фізкультуры ў школе, затым — аператарам станкоў з камп'ютарным кіраваннем.

У ноч на 25 мая Лукашэвіч выпіваў са сваімі сябрамі. Сам ён кажа, што піў піва і 150 грамаў гарэлкі. Каля 2-й ночы кампанія вырашыла схадзіць па піва ў кругласуткавае казіно «Максбэт», якое знаходзіцца побач з клубам. У Лукашэвіча не было пашпарта, і па піва пайшоў яго знаёмы. Сам Лукашэвіч прыбіўся да кампаніі дзяўчат. «З клуба выйшлі два хлопцы пад ручку. Я сказаў дзяўчатам: «Вось педзікі пайшлі». Праз некаторы час з клуба выйшаў Пішчэўскі. Ён штосьці абмеркаваў з сябрамі і пачаў крычаць у наш бок: «Хто тут під...сы?»

Па версіі Лукашэвіча, ён пайшоў да Пішчэўскага, каб «удакладніць, хто тут пі...ры». Сцвярджае, што пайшоў «з мірнымі намерамі». А вось ад Пішчэўскага ішла «схаваная пагроза». «Я спалохаўся, што ён ударыць, і першы нанёс удар правай рукой у левую шчаку. Той паваліўся. Я быў шакаваны. Мой сябар адцягнуў мяне ад месца бойкі», — тлумачыў абвінавачаны.

Ён не зрабіў спробы хоць чымсьці дапамагчы ахвяры ўдару, і сябры вярнуліся да пад'езда. Аднак Лукашэвіч кажа, што вельмі перажываў за лёс збітага хлопца, таму вырашыў вярнуцца да клуба, дзе яго і затрымала міліцыя.


Кірыла Хілько

### «Нас будуць біць»

Знаёмы Пішчэўскага Б., які быў з ім на вечарыне, пацвердзіў: ён і яшчэ адзін хлопец выйшлі з клуба раней за Міхаіла. Пішчэўскі падышоў да іх праз нейкі час, сказаў: «Зараз нас будуць біць», і паказаў рукою на кампанію Лукашэвіча. Затым кампаніі пачалі перакрыквацца. Пасля Лукашэвіч падышоў і пачаў высвятляць адносіны з Пішчэўскім. Што казалі маладыя людзі адзін аднаму, Б. не памятае, але кажа, што Пішчэўскі збіраўся па мабільніку выклікаць таксі. Ад удару Пішчэўскі паваліўся і ўдарыўся галавой аб асфальт.

У судзе заслухалі і падрабязны і надзвычай эмацыйны аповед сведкі П., які сцвярджае, што курыў ля клуба і бачыў усё на свае вочы. Ён сведчыў, што Лукашэвіч раптоўна падскочыў да Пішчэўскага і ўдарыў таго адразу пасля пытання апошняга «Хто тут пі...сы?»

У раёне месца бойкі ўсталяваныя некалькі камер відэаназірання. Аднак запыт аб перадачы відэазапісаў быў зроблены толькі праз два месяцы, калі яны былі выдаленыя.

### «Дранцвее пры слове «перавязка»

На жаль, дакладнае апісанне падзей той ночы не дапаможа Міхаілу вярнуць радасць жыцця. Цяпер ён прыкуты да бальнічнага ложка. Прытомнасць вяртаецца да яго эпізадычна, але Міхаіл не можа размаўляць. Дыхае праз трахеастому, а харчуецца праз зонд. З мужчыны спартовага целаскладу Пішчэўскі ператварыўся ў дыстрофіка амаль без цяглігцаў.

Міхаіла даглядае яго брат Віталь. Ён не мог расказваць пра брата без слёз. Віталь праводзіць каля брата па 12—14 гадзін у суткі. Да здарэння ён жыў і працаваў у Магілёве, аднак быў вымушаны звольніцца і пераехаць у сталіцу. Праз тры месяцы жыцця паміж двума гарадамі ад Віталя сышла жонка.


GAZETABY.COM

«Я не пускаю маці да Мішы больш чым на 15 хвілін. Ёй становіцца дрэнна, і Міша адчувае яе пакуты і пакутуе таксама. Ён амаль увесь час ляжыць ціха, але як толькі пачуе пра перавязку, увесь дранцвее. Перавязкі робяць нажывую, і Мішы вельмі балюча». Неўзабаве Міхаіла збіраюцца выпісаць з бальніцы. Рэабілітацыю людзей з такім дыягназам у Беларусі не праводзяць, а на замежную клініку ў сям'і Міхаіла няма грошай.

**Кірыла Хілько**

# «Адразу жывых было трое, цяпер толькі адзін»

**Кіроўцы-прафесіяналы** разбіліся пад Навагрудкам.


ДЗЯРЖАЎТАІНСПЕКЦЫЯ ... (credit: ДЗЯРЖЖАМІТЭТ СУДЭКСПЕРТЫЗ)

Трагедыя адбылася раніцай 10 студзеня каля вёскі Мількавічы. Кіроўца «Кія Спортэйдж» ехаў з боку Навагрудка ў кірунку Ліды і ўрэзаўся ў «Нісан». Ад удару ўсёдарожнік «Кія» выкінула на сустрэчку, дзе аўто сутыкнулася з «Фальксвагенам». У тым аўто ехала пяцёра чалавек. Двое загінулі адразу, яшчэ двое пазней.

Сяргей перавозіў у той дзень на грузавіку прадукты з Баранавіч у Ліду. Ён стаў сведкам страшнай аварыі.

«Там пад'ём ідзе. На сярэдзіне пад'ёму мяне абагнала «Кія». Я яшчэ сам сабе адзначыў, што кіроўца для такіх дарожных умоў упэўнена ехаў: дарога была няўшчанай, усё белае — у снезе. А пасля пад'ёму пачынаецца плаўны доўгі спуск. І метраў за 300 заўважыў, што «Кія» наперадзе вільнула: зразумеў, што нешта здарылася. Уключыў аварыйку».

Сяргей пад'ехаў да машын, спыніўся. У тым месцы, хоць і блізка да горада, адсутнічае мабільная сувязь. Давялося спыніць самазвал, што ехаў у Навагрудак, каб той выклікаў медыкаў.

«Я падбег да «Фальксвагена»: кіроўцу проста сплюшчыла. Такі дагледжаны мужчына, з кароткай стрыжкай, гладка паголены. Але не адгукаўся — мёртвы. Я тады адчыніў заднія правыя дзверцы: выйшла маладая дзяўчына. У яе быў твар пасечаны, у крыві. Яна маўчала. Абышоў і адчыніў заднія левыя дзверцы — выйшаў мужчына: у яго твар быў напухлы пасля ўдару».

Дваіх пасажыраў «Фальксвагена» пасадзілі на спадарожныя машыны да Навагрудка. Калі прыехалі медыкі, з задняга сядзення «немца» вылез яшчэ адзін мужчына. Ён сам лёг на насілкі, яго паклалі ў «хуткую». Але неўзабаве ён у машыне і памёр. А ў інтэрнэце я прачытаў, што ў бальніцы памёр і другі мужчына. Адразу жывых было трое, цяпер толькі адзін».

Калі прыехалі ратавальнікі і зрэзалі дах у «Фальксвагене», побач з кіроўцам убачылі яшчэ аднаго загінулага мужчыну.

Кіроўца «Кія» не пацярпеў. «У яго была толькі напухлая скула. Ён увесь час маўчаў. Такі салідны мужчына. Гума на машыне ў яго была дарагая... Дарога была ніякая — усё белае. Краю нават не відаць. А пад снегам быў лёд. Амаль усе машыны ехалі па сярэдзіне дарогі: левымі коламі ехалі па цэнтры — практычна толькі тры каляіны».

Пазней высветлілася, што мужчыны з «Фальксвагена» былі кіроўцамі-прафесіяналамі: займаліся перавозкай небяспечных грузаў. І ў той дзень кіраваліся на курсы павышэння кваліфікацыі з Ліды ў Баранавічы.

У дачыненні да кіроўцы «Кія» распачата крымінальная справа за парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чатырох асоб.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сцісла

### Міліцыянт страляў па каратысце

У Мінску расследуецца справа аб супраціўленні міліцыянту. У ноч на 4 студзеня нецвярозая кампанія разбіла шкло ў пад'ездзе аднаго з дамоў. Жыхары выклікалі міліцыю. Пры затрыманні адзін з мужчын напаў на міліцыянта. Апошні выкарыстаў пісталет — параніў нападніка. Ім аказаўся п'яны 20-гадовы каратыст. Міліцыянта шпіталізавалі з траўмамі, як і яго крыўдзіцеля.

### Налёт на краму

5 студзеня ў прадуктовую краму ў Барысаве ўварваўся малады чалавек з пісталетам і забраў з касы 6,6 мільёна рублёў. Нападніка затрымалі. Ім аказаўся 24-гадовы хлопец, раней судзімы. Яго затрымалі ў кавярні, калі той распіваў алкаголь. Падчас вобшуку ў яго знайшлі скрадзеныя грошы. А па месцы жыхарства канфіскавалі пнеўматычны пісталет.

### …А плаціць сапраўднаму ўласніку

7 гадоў правядзе ў калоніі 22-гадовы кіроўца «БМВ», які нападпітку насмерць збіў у Мінску жанчыну, а мужчына ад траўм памёр у бальніцы (хлопец ужо быў пазбаўлены правоў за язду «пад мухай»). Аказалася, што «БМВ» ён «купіў» па даверанасці. І цяпер 50-гадовы фармальны ўласнік аўто павінен выплаціць 175 мільёнаў рублёў маральнай кампенсацыі родным загінулай жанчыны, блізкія мужчыны на кампенсацыю не падавалі.

### Пад нікам «Абракадабра»

У Віцебску асудзілі групу маладых распаўсюднікаў спайсаў. Штодня яны прадавалі да кілаграма курыцельных сумесяў. Схема збыту была стандартнай: спажывец наркотыку рэгістраваўся ў Skype і дадаваў у спіс кантактаў карыстальніка «Абракадабра Віцебск», пасля чаго вялася перапіска. Калі збытчыкаў затрымалі, імі аказаліся маладыя людзі: дваім не было і 18 гадоў. Яны атрымалі 10, трэці атрымаў 13,5 года калоніі. Яшчэ адзін абвінавачаны па справе знаходзіцца ў вышуку.

**КМ**

# Самыя папулярныя беларусы «УКантакце»: хто яны і хто іх чытае

Сацыяльная сетка «Укантакце» — адзін з самых наведваных сайтаў у беларусаў. Папулярнымі тут робіцца прыгожыя і знакамітыя, дзяліцца разумнымі думкамі тут не прынята.

«Наша Ніва» адсачыла на самых папулярных беларусаў ва «Укантакце» і разабралася, за што іх лайкаюць.



**Макс Корж — 326 000 падпісчыкаў**

Не дзіва, што музыка актыўна юзае менавіта гэтую сацсетку — тут ягоныя асноўныя слухачы.



**Дзіма Ермузевіч — 96 000 падпісчыкаў**

16-гадовы відэаблогер з Гомеля істотна адстае ад Макса Каржа, але можа пахваліцца яшчэ і 193 тысячамі падпісчыкаў на ўласным Ютуб-канале. Асабліва папулярнымі выходзяць відэа з танцамі.



Каця Коба

**Каця Коба — 84 000 падпісчыкаў**

«Укантакце» проста прыгожыя дзяўчыны маюць тысячы сяброў. Каця Коба назбірала больш за восем дзясяткаў тысяч яшчэ і таму, што яна 1) фотамадэль, 2) тэлевядучая на «Беларусь-1», 3) здымалася ў кліпе Макса Каржа.

Дарэчы, «Інстаграм» беларускай прыгажуні куды больш папулярны — яе чытае 240 тысяч чалавек.



**Андрэй Шавель — 78 000 падпісчыкаў**

Відэаблогер з горада Ліда, які проста расказвае на камеру пра сябе. Ягонаму феномену не трэба шукаць тлумачэння: нехта ж павінен быць папулярным відэаблогерам? 86 тысяч падпісчыкаў на «Ютуб» і больш за 2 мільёны праглядаў канала.

**Наташа Манькоўская — 63 000 падпісчыкаў**

Дзяўчына знялася ў беларускім фільмаўскім кіно «Падзенне ўверх», але папулярнасць здабыла дзякуючы сваёй прыгажосці і такім фотаздымкам.



Хаця, можа, і праз сваю любоў да вершаў Сяргея Ясеніна і нежаданне адступаць ад маральных прынцыпаў (так характарызуецца Манькоўская ў суполцы, прысвечанай ёй). Там жа можна знайсці інфармацыю аб конкурсах прыгажосці, дзе Наташа займала прызавыя месцы.

Яшчэ 53 тысячы чалавек глядзяць яе фоты ў «Інстаграме».

**Іван Шыла**

**«Фэйсбук»** — амерыканская сацыяльная сетка, у ёй беларусы абмяркоўваюць сваё жыццё і грамадска значныя падзеі.

**«Укантакце»** — расійская сацыяльная сетка, моладзь дзеліцца ўласнымі здымкамі, вясёлымі карцінкамі і музыкай.

**«Інстаграм»** — сацыяльная сетка толькі для выстаўлення фотаздымкаў і кароткіх відэаролікаў.

**«Ютуб»** — сервіс для прагляду відэа.

# Новы танк у адказ на расійскую агрэсію?

У дакладзе камітэта па бюджэце нямецкага парламента знайшлося месца для заявы пра неабходнасць распрацоўкі новага асноўнага баявога танка Leopard 3.

Сучасная вайна немагчымая без сучасных танкаў, і, відавочна, Нямеччына лічыць, што мадэрнізацыі існуючых Leopard 2 недастаткова для захавання бяспекі краіны ў будучыя 10—20 гадоў.

Групоўка расійскіх войск на мяжы з Украінай прымушае еўрапейцаў пераглядаць ацэнкі магутнасці сваіх танкавых сілаў, якія скараціліся пасля «халоднай вайны», сказаў Франк Хаўн, выканаўчы дырэктар кампаніі, якая выпускае Leopard 2.

**Аляксандр Гелагаеў**



POPSCI.COM

Сучасная мадыфікацыя Leopard 2.

# На ядзерным рэактары ў Латвіі ўцечка

Але небяспекі **няма**.

На Саласпілскім ядзерным рэактары (каля Рыгі), магчыма, адбылася ўцечка яшчэ з адной ёмістасці для захоўвання радыеактыўнай вады. Радыеактыўны ўзровень на тэрыторыі рэактара не перавышае дапушчальнай адзнакі.

Урад Латвіі прыняў рашэнне вылучыць дадаткова 15 000 еўра на неадкладныя тэхнічныя працы. Па словах прэм'ер-міністра Латвіі Лаймдоты Страўюма, доўгатэрміновым рашэннем павінен стаць дэмантаж рэактара.

**СГ**



# Правілы жыцця Сяргея Міхалка

**У дзяцінстве я любіў** фантазіраваць, гуляць у вайнушку і смяшыць сяброў. Я верны сабе да гэтага часу.

**Калі ты новенькі,** найлепш адразу пабіцца з самым моцным у класе. Нават калі ты прайграеш, у тайных школьных рэйтынгах табе дадуць высокую ацэнку, і астатнія надоўга адчэпяцца.

**Больш за ўсё я любіў** урокі працы і чарчэння, хоць і не меў поспеху па гэтых прадметах — паяльнікам прапякаў форму, напільнікам здзіраў пальцы, а тарка ў падарунак маме на 8 Сакавіка ў мяне была самая каравая. Чарціў таксама агідна — тлустым алоўкам, без разметкі, потым спрабаваў выправіць — рабіў толькі горш. Таму я да гэтага часу захапляюся працоўнымі і майстрамі, паколькі мне не даступныя іх таленты і ўменні.

**На зборах па веласпорце** ў Горным Алтаі мясцовыя хуліганы кідалі ў нас камяні і спускалі сабак. Іх гэта забаўляла. Я ведаю, што такое «цікавасць натоўпу».

**Бацькі марылі,** каб я хадзіў у музыкальную школу, бо дзіця вайскоўцаў павінна быць інтэлігентным. Яны купілі мне піяніна. А я хацеў на самба і ў авіямадэльны гурток. У музыкальную хадзіў сяк-так, піяніна зламалася. Бацькі выклікалі наладчыка за 25 рублёў, і ён хутка знайшоў няспраўнасць: я схаваў рагатку ў піяніна і забыўся пра яе. Мама страціла 25 рублёў, а я добрую рагатку і атрымаў чосу.

**Вайсковыя маршы,** парады для мяне былі святам. Я не задумваўся, што за ўсім гэтым стаіць. Я хацеў, каб бацьку адправілі служыць у Афганістан. Тады б у нас быў аўтамабіль, дыван, а ў мяне джынсы і японскі магнітафон. Я не думаў, што там могуць забіць.

**Рэцэнзія на першы канцэрт «Ляпісаў»** была разгромнай. Другая — абуранай: на фестывалі мастацтваў мы не выканалі ніводнай ноты: п'яны басіст зваліўся з камбікам і не змог устаць, а бубнач чамусьці выкінуў палачкі, як толькі выйшаў на сцэну, і трапіў імі ў работнікаў культуры. На трэцім канцэрце мой прыяцель Вася Гагарын, мастак і каратыст, парваў мой акардэон, і мы пабіліся за кулісамі магілёўскага ДК усім гуртам, за гэта нас знялі з праграмы. На чацвёрты канцэрт прыйшло ўжо 100 нашых фанатаў. Скандалы і дрэнная слава падарылі мне першых прыхільнікаў. І ўсіх наступных.

**Я прыехаў ва Украіну,** у Гурзуф, у 18 гадоў. Наша менская банда ўздельнічала там у бойцы супраць мясцовых гопнікаў і бандытаў. Пра гэтую бойку пазней нават здымалі фільм — у ёй загінула двое хіпаноў. Мы засталіся пажыць у Крыме, і я паставіў рэкорд ялцінскай набярэжнай, калі за адзін вечар зарабіў 180 рублёў. Мой рэпертуар быў найлепшым — Цой, «Дзіўныя гульні», «Нуль», Летаў, Баярскі, Антонаў і блатняк. А побач танцавалі нашы напаўаголеныя прыгажуні-нефармалкі. Крым — мой.

**Шнур — мой антыпод.** Ён паэтызуе лад жыцця, які ў рэальным жыцці хутка вядзе да фіналу. Бухаць, трахацца як свіння, быць цынікам і несціся, як запалены цягнік, можа толькі герой комікса або сам Шнур — багаты і паспяховы. Тыя, хто яго пераймае, адразу дохнуць.

**Я ў року з 15 гадоў.** Я піў, ужываў наркотыкі, дзбашырыў і ладзіў оргіі — рабіў усё, каб здавацца крутым рок-героем. Але сапраўднай рок-зоркай стаў, толькі калі завязаў з усёй лухтой, заняўся спортам і ператварыўся ва ўзорнага сем'яніна.

**Тое, чым я займаюся,** — гэта фізкультурна-аздараўленчы бокс. На рынг не змагу выйсці — я не ўмею нармальна абараняцца і дрэнна рухаюся. На трэніроўках я адпрацоўваю ўдары ў мяшок «лапы» трэнера, праводжу лёгкія спарынгі, працую са скакалкай, брусамі і гантэлямі. Гэтага дастаткова для прафесійнага артыста, але мала нават для баксёра-аматара.

**З жонкай пазнаёміўся ў цягніку.** Я быў п'яны і хацеў выкінуць з вагона мастацкага кіраўніка яе тэатра. Яна яго адбіла і выратавала небараку ад катастрофы, а мяне, магчыма, ад турмы. Тады яна ненавідзела «Ляпіса». Праз пяць гадоў мы сустрэліся зноў і закахаліся з першага погляду. Першы погляд не абавязкова бывае з першага раза.

**Нянавісць і раздражненне** — часам лепшая матывацыя для сур'ёзных дзеянняў, чым прага рабіць дабро ці жаданне выратаваць чалавецтва. Добрых намераў я бачыў у тысячы разоў больш, чым добрых учынкаў.

**Люблю буйныя формы** — фільмы «Метраполіс», «Грамадзянін Кейн», «Бразілія». Дэкарацыі, масоўка, маштабы мяне ўражваюць больш, чым псіхалагізм маналогаў або бездакорная акцёрская гульня.

**Інтэрв'ю** — гэта калі паспавядаешся і чакаеш суцяшэння, загадзя ведаючы, што бацюшка потым раскажа ўсім пра твае грахі, свядома скажаючы факты і смакуючы гадасці. І наогул, ты мусульманін-шыіт, а чамусьці зайшоў у царкву адвентыстаў сёмага дня. Даваць інтэрв'ю — гэта як апранацца і прыхарошвацца, гледзячы ў люстэрка задняга выгляду.

**Калі бацьку паставілі дыягназ** «хвароба Паркінсона», лекары далі яму ад сілы 10 гадоў жыцця. Подзвіг мамы, сястры і, галоўнае, яго асабісты подзвіг дазволілі яму пражыць яшчэ 17 гадоў. Чалавек здзяйсняе подзвігі не ў адзіночку. Ёсць тыя, дзеля каго ўсё робіцца, і ёсць тыя, хто стварае неабходныя для подзвігу ўмовы.

**Запісаў Антон Кашлікаў, bruttoband.ru**

# Канца падзенню расійскага рубля не відна

А **беларускі** ляціць разам з ім.

Канец мінулага года і пачатак гэтага праходзіць пад знакам вялікіх эканамічных праблем у Расіі.

### Нафта

Нягледзячы на тое, што нафта становіцца ўсё таннейшай (марка Brent прадаецца за $46), беларуская валютныя рэзервы растаюць. Праблем падкінула і нафтавая рэформа, якую праводзіць Расія.

«Гэтая рэформа прадугледжвае зніжэнне мытаў на нафту і нафтапрадукты ў некалькі разоў. І адначасова павышаецца падатак на здабычу карысных выкапняў, — тлумачыць сітуацыю Тацццяна Манёнак, эканамічны аглядальнік газеты «Беларусы і рынак». — Гэта значыць, што сёлета, нягледзячы на сусветнае зніжэнне коштаў на нафту, яна для Беларусі больш дарагая, чым летась. Яна даражэйшая, чым магла б быць, калі б не было гэтага манеўру. Летась тагачасны прэм'ер Міхаіл Мясніковіч казаў, што гэтая пераплата можа дасягаць $100 за тону. А гэта даволі істотна для беларускіх нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў».

Расія, кампенсуючы беларускія страты ад свайго манеўру, дазволіла пералічваць усе мыты ад экспарту нафтапрадуктаў, якія мы выпрацоўваем з расійскай нафты і прадаём на Захад, у беларускі бюджэт. Гэта мусіла скласці каля $2 мільярдаў. Услед за сусветнымі цэнамі на нафту зніжаецца і гэтая лічба.

Да таго ж, нагадвае Манёнак, Беларусь здабывае 1,6 мільёна тон уласнай нафты, якую, паводле пагаднення паміж нашай краінай і Расіяй, экспартуе па сусветных цэнах. Мыты ад продажу пералічваюцца ў беларускі бюджэт. А калі сусветныя цэны падаюць, зніжаюцца і мыты. Беларусь атрымлівае менш валюты.

Пры гэтым паліва таннець наўрад ці будзе. Летась кошт паліва прывязалі да курсу даляра. Будзе слабець беларускі рубель — будзе даражэць бензін.

### Рубель

Падзенне расейскага рубля адбіваецца на Беларусі, бо менавіта ў Расію мы экспартуем асноўную частку сваёй прадукцыі.

«Расійскія рынкі і іх ёмістасць істотна скарачаюцца. Мы экспартуем у асноўным інвестыцыйныя тавары: тэхніку, машынабудаўнічую прадукцыю, абсталяванне. А калі ідзе эканамічны спад, фірмы-пакупнікі, як правіла, адразу зніжаюць свае выдаткі на такія тавары», — кажа эканаміст Зміцер Крук.

Да таго ж, калі ў Расіі абменны курс зніжаецца хутчэй за беларускі, гэта зніжае канкурэнтаздольнасць нашых тавараў адносна расійскіх, падкрэслівае эксперт. Беларускія прадаўцы пачынаюць страчваць грошы. Менавіта таму, калі расійскі рубель пачало ліхаманіць, эканамісты аднагалосна раілі рыхтавацца да дэвальвацыі і Беларусі. Урэшце так і адбылося.

Нацбанк спрабуе намацаць раўнаважны курс даляра. Па стане на 14 студзеня афіцыйны курс складае 14330 рублёў. У абменніках курс продажу дасягае 14 615 рублёў, але нават па такой цане свабодна купіць валюту немагчыма.

### Што будзе заўтра?

Прагнозы на будучыню пакуль што негатыўныя для Расіі Што тычыцца расійскага рубля, то, хутчэй за ўсё, дэвальвацыя — плаўная ці хуткая — працягнецца за кошт санкцый Захаду. Расійскія кампаніі павінны сплачваць даўгі валютай, што стварае дадатковую нагрузку на рынак. А золатавалютныя рэзервы не бяздонныя.

**Улад Швядовіч**

## Віктар Каліна: «На Данбасе ваюе ўся Расія»

Шансанье Віктар Каліна з'ездзіў у Данецк, каб падтрымаць байцоў «ДНР» і «ЛНР». Там ён даваў канцэрты, а таксама фатаграфаваўся з аўтаматам на фоне надпіса «Смерць бандэрлогам».

**«Наша Ніва»: Шмат шуму нарабілі фотаздымкі з Данецка? Чаму паехалі туды?**

**Віктар Каліна:** Мы з сябрамі вырашылі стварыць фонд, у першую чаргу для байцоў «Беркута», для іх сем'яў. Сабралі цэлую фуру: 24 тоны прадуктаў, камуфляжу, адзення, буржуек. Ні пад якімі сцягамі гэта не ішло. Мы самі працягнулі фуру праз мяжу. Сябрамі, урадам «ДНР» было арганізавана некалькі канцэртаў у гарадах і батальёнах.

**«НН»: Што за людзей Вы там убачылі?**

**ВК:** Абсалютна розных. Там уся Расія. Людзі з Сібіры, з Каўказа. Ёсць кантрактнікі і найміты, суперпрафесіяналы, якія ўсё жыццё ваююць. Але большасць — гэта людзі, што не маюць грошай нават на цыгарэты. Яны ваююць, бо адстойваюць свой «рускі мір». Гэтыя людзі хочуць захаваць рускую мову, тэлебачанне па-руску, школу. Яны ўсе кажуць, што не хочуць адлучацца ад Украіны, яны гэтага не хацелі ад пачатку.

Вядома ж, там шмат марадзёраў, якія рабуюць людзей. Але пры мне паказвалі кадры, як гэтых людзей вылічваюць і расстрэльваюць на месцы. Але гэта лыжка дзёгцю.

Ёсць украінская армія і прызыўнікі, якія ідуць абараняць радзіму. Ёсць афіцэры, якія служаць Украіне, я іх паважаю. Мне спадабаліся гуманныя адносіны да палонных. Іх ніхто не б'е, не цкуе. У іх ёсць цыгарэты, іх кормяць. Канечне, больш жорстка ставяцца да «Правага сектару», але яны рэдка трапляюць, бо іх адразу ліквідуюць.

**«НН»: Вы не баіцеся, што страціце сваю аўдыторыю ва Украіне?**

**ВК:** Я люблю Украіну, у мяне там было каля 15 канцэртаў на год. Я іх страціў, страціў вельмі вялікія грошы. Найбуйнейшая ўкраінская кампанія, якая прасоўвала мяне ў гэтай краіне, разарвала са мной кантракт. Мае сацыяльныя сеткі пакінула каля 2500 чалавек з Украіны. Сумна...

**«НН»: Вас не засмучае, што Беларусь не падтрымлівае «ДНР» і «ЛНР»?**

**ВК:** А не падтрымае хто? Я бачыў афіцэра ў Данецку, які расказваў, што дапытваў беларускага ваеннапалоннага з нейкага беларускага батальёна. Аказваецца, там вельмі шмат беларускіх нацыяналістаў, яны сфармавалі цэлы батальён.

Я не ў складзе баявых атрадаў, я не заклікаю са сцэны ісці на Кіеў. Я проста кажу: «Трымайцеся, здароўя, веры вам». Яны змагаюцца за сваю зямлю, за свой свет. Гэта іх выбар, іх лёс.

**«НН»: А не баіцеся, што Еўропа забароніць уезд на сваю тэрыторыю?**

**ВК:** Я не быў у Еўропе 7 гадоў. Нічога страшнага, калі не пабуду яшчэ 7 гадоў. У мяне ёсць Азія, ёсць вялікая-вялікая Расія, Байкал, Алтай, Петрапаўлаўск-Камчацкі... Але ж я не ваяваў, не знаходзіўся ў баявых батальёнах. Мой выбар — не людзей забіваць, а падтрымаць ахвяр.

**«НН»: Ідэі для новых песень нарадзіліся?**

**ВК:** Так, тры-чатыры песні. Я нават выклаў прыпеў на сваім сайце. «И целый мир кричит вам вслед за вас мужчины за вас защитники! Солдаты! Офицеры! Пусть покорятся на земле вам все вершины Здоровья Вам! Добра, и веры! Вы защитники новой России добровольцы, оплот, ополчение дай вам бог нескончаемой силы лишь Россия имеет значение» [захаваныя правапіс і пунктуацыя арыгіналу — «НН»].

**«НН»: Вы разглядаеце Данбас, як чый: украінскі, рускі? Незалежную тэрыторыю?**

**ВК:** Я пытаўся пра гэта ў байцоў: а што, калі заўтра Расія вас шырне, калі вы станеце разменнай картай? Усе кажуць, што нам няма куды ісці, куды бегчы. Мы будзем ісці да канца. Мы толькі за незалежнасць, нават калі нас не падтрымае ў будучыні Расія. Гэта казалася з такімі пачуццямі, што ў мяне мурашкі беглі па скуры, гэта не найграеш. А я хацеў бы бачыць там мір. Канечне, найлепш было, каб гэта была федэратыўная дзяржава ў складзе Украіны са сваімі законамі, мовай. Гэта было б самае правільнае.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**




Каліна вядомы як прапагандыст турэмнага жыцця. Грошы ён зарабляе на канцэртах у Расіі.

## Мінгарвыканкам перадаў забудоўшчыку зямлю разам з людзьмі

Пакуль яны чакалі перасялення, **адна жанчына загінула**.

У Мінску 9 студзеня згарэў прыватны дом на вуліцы Ураджайнай. У полымі загінула гаспадыня. Цяпер высвятляецца, што трагедыі можна было пазбегнуць.

«У той дзень я застаўся дома пазней і зрабіў правільна. Пачуў дзіўны гучны трэск і выйшаў на вуліцу паглядзець. Адразу насустрач выбег малады чалавек, рукі ў яго былі ў сажы і крыві. Ён сказаў, што ў ягоным доме гарыць газавы кацёл. Папрасіў выклікаць пажарных. Суседні дом быў ахоплены полымем. Цудам не ўзарваўся газавы кацёл, што прывяло б да распаўсюджвання агню на іншыя дамы», — расказаў жыхар аднаго з суседніх дамоў Георгій.

Пажарныя прыехалі на месца здарэння ўжо праз сем хвілін. «У выніку пажару пашкоджана маёмасць на кухні, часткова маёмасць у трох сумежных пакоях, драўляныя перагародкі ў доме, перакрыцці на кухні, страха па ўсёй плошчы. Дом не прыдатны для пражывання», — паведамілі ў мінскім гарадскім УМНС.

Пасля ліквідацыі пажару ў доме знайшлі згарэлай гаспадыню — 61-гадовую жанчыну, аднагодку дома. 27-гадовы хлопец наймаў пакой у гаспадыні. Ён праз акно выскачыў з дома — моцна не пацярпеў.

Папярэдняй прычынай пажару ратавальнікі лічаць парушэнне правілаў эксплуатацыі газавага прыстасавання і агрэгатаў (няспраўнасць абагравальнага катла).

### Можна было пазбегнуць трагедыі?

«Гэтая сітуацыя ў чарговы раз можа сведчыць пра тое, наколькі пачварна адбываецца нагляд гарадскіх уладаў за будаўніцтвам. Зямля, на якой стаяў згарэлы дом, ужо была перададзена прыватнай кампаніі — забудоўшчыку дома па вул. Чарвякова, 55», — расказаў Георгій. Яго дом таксама падпадае пад знос.

Яшчэ ў снежні 2008 года Мінгарвыканкам прыняў рашэнне аб канфіскацыі шэрагу зямельных надзелаў у грамадзян па вуліцах Чарвякова і Ураджайнай. Іх дамы ішлі пад знос, а на іх месцы меркавалася пабудаваць групу шматкватэрных дамоў. Трэці этап — узвядзенне трэцяга жылога дома — забудоўшчык павінен быў пачаць толькі пасля таго, як адселіць жыхароў, а дамы знясуць (кампенсуе жыхарам іх жытло). Але будоўля ідзе, а людзі застаюцца ў сваіх дамах. Па словах Георгія, забудоўшчык нібыта пагаджаецца на ўмовы жыхароў, але рэальных крокаў па перасяленні не робіць.

Інспекцыя дэпартамента кантролю і нагляду за будаўніцтвам па Мінску выдала забудоўшчыку дазвол на будоўлю 3 этапа яшчэ 17 лютага 2014.

«Тым не менш, фірма да сёння не з усімі ўласнікамі зацвердзіла тэрміны, а таксама парадак кампенсацыі страт і перадачы нерухомасці ўзамен той, што зносяць. Калі б усё было зроблена своечасова, трагедыі б не адбылося».

«НН» звярнулася да забудоўшчыка. Але дырэктар фірмы перастаў адказваць на тэлефанаванні пасля таго, як пачуў пытанне журналіста.

**Сяргей Макарэвіч**

# На «Мінск-Арэну» ідзеш, як у Паўночную Карэю

Хацелася б звярнуць увагу на адзін факт.
Тры гады я наведваю «Мінск-Арэну» і заўзею за «Дынама-Мінск». І з кожным годам патрапіць на арэну становіцца ўсё складаней, бо патрабаванні бяспекі становяцца ўсё больш жорсткімі.
У гэтым сезоне мы маем наступную сітуацыю. Каб патрапіць на арэну да пачатку праграмы, сярэднестатыстычны чалавек павінен:
— прыехаць як мінімум за гадзіну да пачатку праграмы,
— прастаяць паўгадзіны на марозе,



СЯРГЕЙ ЗІНІН

— прайсці металадэтэктар,
— прайсці надгляд асабістых рэчаў і ператрус.
Такое ўражанне, што людзі праходзяць мытны кантроль у аэрапорце, а не наведваюць культурна-масавае мерапрыемства.
Ці маюць такія жорсткія патрабаванні бяспекі пад сабой якія-небудзь падставы? І калі такія патрабаванні абавязковыя, то чаму нас не абшукваюць пры ўваходзе ў тэатр ці кіно? Там жа людзей не менш збіраецца?
І яшчэ некалькі слоў. Я не раз наведвала хакейныя арэны ў іншых еўрапейскіх краінах. І ні ў адной з іх я не бачыла ні металадэтэктараў, ні аховы на ўваходзе, ні тым больш ператрусу людзей. Я ўжо маўчу пра дурныя забароны пра ежу і напоі на самой арэне.
Калі Беларусь прэтэндуе на званне еўрапейскай краіны, то мне здаецца недапушчальным такое стаўленне да заўзятараў. Асаблівa крыўдна думаць, якое ўражанне застаецца ў людзей, якія прыехалі паглядзець матчы любімых каманд з іншых краін.

**Ганна Лабушкіна, Мінск**

## Хачу дапамагчы «Логвінаву»!

9 студзеня аштрафавалі кнігарню «Логвінаў» на 1 млрд руб. Гэтае рашэнне мяне абурыла. Дагэтуль была надзея, што гэты «тэатр абсурду» пройдзе бокам, але, на жаль, не пры гэтай сістэме...
У артыкуле Вы напісалі, што кнігарня «Логвінаў» — «востраў вольнага паветра». Гэта літаральна так!
Я прапаную кнігарам стварыць дабрачынны рахунак, на які кожны меў бы магчымасць ахвяраваць сродкі.

**Кірыл Лойка**

**Ад рэдактара.** Мы перадалі Вашу прапанову кіраўніцтву кнігарні «логвінаЎ».

## Запрацавала першая ў Беларусі хрысціянская інтэрнэт-крама

Рыма-каталіцкая парафія Святой Тройцы ў Глыбокім адчыніла сваю інтэрнэт-краму Catholicshop.by. У ёй можна набыць хрысціянскую літаратуру, абразы, атрыбутыку, сувеніры.
Больш як палову асартыменту складаюць кнігі, іх 396 найменняў: рэлігійныя, філасофскія, мастацкія творы, літаратура па псіхалогіі і выхаванні. Стваральнікі не абмежаваліся толькі каталіцкімі аўтарамі — многія кнігі па псіхалогіі напісаныя пратэстантамі, а творы праваслаўнага святара Аляксандра Меня нават вылучаныя ў асобны раздзел.
Сайт афармлены цалкам на беларускай мове.

**Кастусь Шыталь, Глыбокае**

## «Ліце бруд на Амерыку!»

Прачытаў у апошнім нумары газеты, што малайзійскі «Боінг» збілі сепаратысты, трэба разумець прарасійскія.
Аднак у газеце «Комсомольская правда в Беларуси» ад 24 снежня 2014 года паведамляецца, што яго збіў украінскі лётчык па прозвішчы Валошын з аэрадрома ў Днепрапятроўску.
Адкуль вам вядома, што збілі сепаратысты? Адкуль у іх авіяцыя і ракеты «паветра-паветра»? Вы зараз жа адкажаце: Расія дала.
І ўсё-такі, дзе праўда, чаму вы кідаецеся неправеранымі словамі? Я грамадзянін Беларусі, па нацыянальнасці — рускі. Я б не хацеў, каб вы лілі бруд на Расію. Ліце яго на Амерыку — яна заслугоўвае.

**Генадзь Уласаў, Мінск**

**Ад рэдактара.** Следства працягваецца, але пакуль усе факты паказваюць, што збілі самалёт не ракетай з самалёта, а з зенітнага комплекса «Бук», пастаўленага баевікам Расіяй. Досыць прыгадаць, што гэта ж не адзіны самалёт, збіты тэрарыстамі так званай «Данецкай народнай рэспублікі». Згодна з пацверджанымі дадзенымі, усяго было збіта 10 самалётаў і 7 верталётаў украінскай арміі. Найхутчэй, што з «Боінгам» тая шантрапа з «Букамі» ў распараджэнні проста памылілася.
У той жа час Расія баевікам авіяцыі не перадавала, таму і збіваць паветраныя аб'екты ўкраінцам не было патрэбы.
Да такога вываду прыходзіш шляхам супастаўлення фактаў.
Ліць бруд ні на кога не павінны СМІ, яны павінны да праўды дакопвацца.
Наконт бруду, увогуле, бог з вамі, але найгорш, калі ліецца кроў і калі суседзі адрываюць ад іншай дзяржавы кавалкі. Апошні раз у Еўропе такое рабілі Гітлер і Сталін (Судэты, Фінляндыя і г.д.) Чым тое скончылася, вядома.
Вам раім менш чытаць расійскай прапаганды і крытычна ацэньваць факты.

**Масква ў галаве**

## Жывём па «маскоўскай астраноміі»

Ад першага выдання календара «Родны край» штогод набываю яго для штодзённага карыстання. Мяне, рыбака, найбольш цікавяць астранамічныя дадзеныя: усход і заход сонца, даўжыня дня, фазы месяца. Таксама цікавяць звесткі пра знакамітых беларусаў, гістарычныя падзеі.
Паклаўшы на стол каляндар на 2015 год, звярнуў увагу на заўважную розніцу ў даўжыні дня напрыканцы мінулага 2014 года і пачатку новага 2015-га.
І нарэшце ў гэтым разабраўся — у календары «Родны край» на 2015 год дзень пазначаны карацейшым на 16 хвілінаў, чым на гэтую дату ў календары на 2013 год.
Закралася падазрэнне: калі жывём па «маскоўскім часе», дык ці не падсунулі нам і маскоўскую астраномію. Пайшоў у кнігарню, паглядзеў гэтую інфармацыю на календарах, якія выдадзены ў Расіі і ў календары «Родны край». Так і ёсць, астранамічныя дадзеныя (усход і заход сонца і даўжыня дня) супадаюць дакладна. Прытым у расійскіх календарах адзначана, што гэтая інфармацыя для Масквы, нават указаны геаграфічныя каардынаты расійскай сталіцы. Але мы ж далёка ад Масквы жывём!
Дарэчы, у рускамоўных «жаночых» календарах беларускага выдання астранамічныя дадзеныя для Мінска супадаюць з дадзенымі календароў «Родны край» ранейшых гадоў выдання, гэта значыць, яны сапраўдныя. У добра напісанай прадмове да календара чытаецца шчыры беларускі патрыятызм. А астранамічныя звесткі — прыкры ляп рэдактара-ўкладальніка календара Сідаравай Л.У. і кіраўніцтва выдавецтва «Беларусь».

**Вадзім Болбас, Светлагорск**

**Пытанне — адказ**

**Вітаю, шаноўная рэдакцыя «Нашай Нівы»!** Мяне завуць Яраслаў. Буду рады дапамагчы любімаму выданню.
Вучуся на фізічным факультэце БДУ (спецыяльнасць «камп'ютарная фізіка»). У школе паспяхова ўдзельнічаў у алімпіядах па беларускай мове. Можа ў газеце знойдзецца праца для мяне?
**Хачу прапанаваць** сваю кандыдатуру ў якасці аўтара артыкулаў на маладзевыя тэмы. Жыву ў Гомелі, маю вышэйшую філалагічную адукацыю.

**Ганна, Гомель**

**Ад рэдактара.** Сябры, на дадзены момант усе вакансіі ў нас запоўненыя. Сачыце за абвесткамі ў газеце і на сайце.

**Зваротная сувязь**

## Дзякуй табе, «Наша Ніва»!

Дарагая рэдакцыя «Наша Нівы», як я рады за вас, што ёсць такія людзі на белым свеце, што пачулі мой голас аб дапамозе і падалі мне руку. Вы як анёлы з нябёсаў, вы сапраўдныя патрыёты свайго народа.
Тое, з чым я сутыкнуўся ў сваёй барацьбе за праўду і справядлівасць, са злачынным колам кругавой парукі, наводзіць на розныя думкі, якія я нават баюся прамаўляць.
Я стаю на вашым баку, на баку праўды, якую вы паказваеце, не баючыся, на старонках сваёй газеты.
З вамі я не развітваюся, я яшчэ прыйду да вас пераможцам і пакланюся. Праз нядаўні сродкаў падпісаўся толькі на 6 месяцаў, але гэта часова. Віншую вас з Новым годам і тым, што вашае слова праўды будзе ісці ў самую глыбінку. Не развітваюся, а кажу: да сустрэчы!

**З павагай, Віктар Якімовіч, Івацэвічы**

## Паштоўка з Пагоняй са штата Арэгон

Вось такую душэўную паштоўку з маркай-Пагоняй даслаў нам наш чытач з ЗША Вітаўт Арабэла.
«Віншую з Новым годам і Калядамі, жадаю цікавых сюжэтаў і рэзанансных публікацый! — зычыць ён і дадае. — Жыве Беларусь!»
Жыве! Жыве, пакуль нават закінутыя лёсам у штат Арэгон, ЗША, людзі стараюцца пасылаць на радзіму віншаванні з познамкай-Пагоняй.



## «Без чытання «Нашай Нівы» мы тут ані дня пражыць ужо не можам»

Вельмішаноўныя супрацоўнікі «Нашай Нівы»!
Сябры гурту беларускай культуры «Зорка Венера» з украінскага горада Ізяслаў, што на Валыні, і я, яго кіраўнік, сардэчна вітаем вас з надыходам Новага, 2015 года! Зычым вам шчасця ў жыцці, новых творчых здабыткаў у працы, павелічэння накладу газеты, застаўацца й надалей запатрабаваным выданнем сярод нас, беларускага замежжа — выданнем, без чытання якога мы тут ані дня пражыць спакойна ўжо не можам, моцнага здароўя і аптымізму.
Жыве Беларусь!

**З павагай, Пятрусь Капчык, кіраўнік гурту беларускай культуры «Зорка Венера»**

**Вясёлае пяро**

## Пясец — з намі

У чаканні ўвесь народ:
Падышоў Авечкі год! —
Як бы той авечы лёс
Нас усіх з зямлі не знёс:

Хай ты доктар, хай касец —
Падкрадаецца пясец!
Трэба моцы нам здабыць
І авечкамі не быць! —

І пушны звярок тады
Накіруецца туды,
Дзе ўсё дураць наш народ,
Ды наробіць там турбот!

Налівай жа, налівай —
За шчаслівы родны край,
За свабоду, за любоў,
За надзею, за сяброў,
І, як хопіць нам вінца, —
За свядомага пясца!

P.S. Я пяю яе на матыў дзіцячай песенькі «Каравай, каравай, каго хочаш — выбірай!». Запевы трэба пець павольна, а прыпевы — бойка, жартаўліва, акрамя чацвёртага радка, які таксама ідзе з запавольваннем.
Дзякую Вам за ўвагу і за Вашу выдатную газету.
Добрага новага года!
Вясёлага Вам настрою, адменнага здароўя, добрых адпачынкаў, поспехаў у працы, шчасця ў асабістым жыцці і нашай агульнай перамогі ў наступаючым 2015 годзе!

**Віталь Равінскі, доктар і найстарэйшы (так лічаць) беларускі бард, Мінск**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.
**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**

# Лявон Баршчэўскі: «Мы 25 гадоў выконваем ролю Мінадукацыі»

У **Коласаўскага ліцэя** юбілей.

15 студзеня 1990 года ў Беларусі паўстала ўнікальная навучальная ўстанова — Беларускі гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа.

У 2003 годзе ліцэй страціў свой афіцыйны статус і нейкі час працаваў падпольна. Але выстаяў!

**«НН»: У чым унікальнасць Коласаўскага ліцэя?**

**Лявон Баршчэўскі**, намеснік дырэктара ліцэя: Мы 25 гадоў, фактычна, выконваем функцыю Міністэрства адукацыі: распрацоўваем праграмы, падручнікі, якіх не было да нас. Напрыклад, хрэстаматыя па сусветнай літаратуры — іх не існавала ў прыродзе, дый цяпер іх ніхто не робіць.

Па-другое, мы заўсёды працавалі, арыентуючыся на беларускае грамадства, якое яно ёсць. У нас нават было правіла: палова выкладчыкаў павінна быць мужчынамі.

Па-трэцяе, мы заўсёды прыцягвалі беларускіх інтэлектуалаў. Многія з іх не мелі досведу працы ў адукацыйных установах. Аднак яны ішлі да нас, бо самарэалізоўваліся праз ліцэй.

Мы стараліся ненавязліва паказваць узрошчаным савецкай і постсавецкай школай вучням іншую сістэму каштоўнасцяў, стварылі атмасферу сяброўства і павагі. І, вядома, у нас была дакладная канцэпцыя, каго мы хочам выхаваць у нашым ліцэі, хто патрэбны будучай Беларусі. Нічога з гэтага не памянялася і сёння.

**«НН»: Што Беларусь страціла, калі ліцэй ліквідавалі?**

**ЛБ:** Інтэлектуальны патэнцыял ліцэя застаўся па-за афіцыйнай сферай уплыву. Калісьці Мінадукацыі з намі супрацоўнічала, мы распрацоўвалі на іх замову праграмны блок па гуманітарных прадметах. Да нас звярталіся з Інстытута адукацыі, пыталіся, у якім кірунку нам распрацоўваць курс літаратуры ці гісторыі. Аднак пасля таго, як ліцэй стаў працаваць падпольна, такое супрацоўніцтва больш немагчыма.

Мы заўсёды давалі вучням выбар. А пасля гэта свабода была страчана, усіх зноў паспрабавалі загнаць у адно стойла крыху падфарбаванай сталінскай школы.

**«НН»: У чым галоўныя заганы беларускай сярэдняй школы?**

**ЛБ:** Галоўная загана у тым, што беларуская школа працягвае традыцыю царскай школы Расіі, дзе настаўнік — гэта вінцік у дзяржаўным механізме, які рэтранслюе палітыку ўладаў, якую павінны выконваць унізе. А вучні ў гэтай сістэме — апошняе звяно. Ім не даецца права выбару, не даецца права самастойнага мыслення. І самае галоўнае — гэта палітызацыя беларускай школы. Як у савецкай школе ў галовы ўбівалі адну дактрыну, так і ў школе часоў Лукашэнкі школа палітызаваная ў недапушчальнай ступені. Вучням не даецца права вырашаць, займацца самакіраваннем.




**«НН»: Выпускнікі ліцэя цяпер атрымліваюць замежныя сертыфікаты аб адукацыі, што дазваляе ім лёгка паступаць у еўрапейскія ВНУ. Многія з іх не вяртаюцца ў Беларусь. Ці не здаецца вам, што ліцэй працуе «ў пустэчу»?**

**ЛБ:** Выпускнікі атрымліваюць і беларускае пасведчанне аб адукацыі. Але нас сапраўды засмучае такое становішча. Зусім нядаўна адбылася сустрэча з вучнямі, на якой мы казалі, што хацелі б, каб яны вярталіся ў Беларусь.

З іншага боку, ліцэй мае гуманітарны профіль, 85% спецыяльнасцяў не запатрабаваны ці запатрабаваны не ў той форме ў структуры, дзе дзяржава з'яўляецца манапалістам. Прыватныя ВНУ і школы існуюць у нас толькі на паперы, але ідэалагічна яны падкантрольныя дзяржаве. Жорстка весці размову цяжка, бо выпускнікі кажуць, што там яны знаходзяць працу, а тут яны не могуць прымяніць сябе. Але мы, вядома, агітуем шукаць магчымасці і вяртацца на радзіму.

**«НН»: У якім выпадку магчыма афіцыйнае вяртанне ліцэя ў Беларусь?**

**ЛБ:** Гэта ў прынцыпе немагчыма пры сённяшнім адукацыйным кодэксе і заканадаўчых рамках, уведзеных у 2011 годзе. Працаваць па дзяржаўных праграмах мы не можам, бо гэта будзе прафанацыя гуманітарнай адукацыі, а навучаць па сваіх праграмах, як мы рабілі да 2003 года, нам не дазваляе заканадаўства. Трэба мяняць заканадаўства, вяртацца да шматпрофільнай адукацыі. І ў гэтай сітуацыі мяч на баку дзяржавы, якая павінна зрабіць крокі першай. У нас жа ёсць унікальны досвед незалежнай гуманітарнай адукацыі.

**«НН»: Што б вы пажадалі сваім выпускнікам?**

**ЛБ:** Каб вярталіся ў Беларусь, дасягалі поспеху і ўплывалі на іншых людзей тут, у Беларусі.

**Гутарыў Кірыла Хілько**

**Пажаданне ад дырэктара**

Хай тыя веды і тая пазіцыя, якія вучні набываюць у ліцэі, дапамагаюць як ім у асабістым жыцці, так і краіне, каб у ёй былі перамены.

**Уладзімір Колас, дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа**

**Дыскусійнае меркаванне**

# Вайна іслама супраць еўрапейскай цывілізацыі абвешчана

Піша **Якуб Лапатка**.

Пасля распаду Савецкага Саюза я дваццаць гадоў працаваў перакладчыкам, у тым ліку і з арабамі, самалійцамі ды іншымі прадстаўнікамі мусульманскага свету. І прыйшоў да высновы, што ніякая інтэграцыя іх з намі немагчыма. Наша цывілізацыя і мусульманскі свет — гэта два розныя космасы. І еўрапейскія каштоўнасці іх не кранаюць. Дакладней, кранаюць у чыста прагматычным плане: мы прыехалі да вас і будзем у вас жыць.

Паважайце нашыя звычаі, нашую веру, нашыя парадкі. Вы прыехалі да нас, скажам, у Емен, дык паважайце нашыя звычаі, нашую веру, нашыя парадкі. І лібералы натхнёна іх падтрымліваюць.

Наогул, ліберальныя мазгі цалкам перакручаныя.

У фінскім горадзе Эспа з вуліц зніклі сімпатычныя гіпсавыя свінкі. Па патрабаванні самалійцаў-мусульман. Яны, маўляў, абражаюць іхнія рэлігійныя пачуцці.



У Нарвегіі ў адным горадзе перасталі ставіць калядную яліну на плошчы — гэта раздражняе мусульман.

У Францыі дзеля рэлігійнай нейтральнасці дзяржавы забаранілі калядныя батлейкі.

Але час ужо і ўсклікнуць: «Шаноўныя госці! Вы ж у НАШАЙ краіне, не ў сябе дома! А ў нас свецкая дзяржава і свецкія законы! Будзьце ласкавыя выконваць іх!» Куды там! Тыя ж «карысныя ідыёты» будуць крычаць, што нельга сябе паводзіць цвёрда і паслядоўна. Што тады мы станем такімі ж, як яны. Але можна быць упэўненым, што станем, дакладней не самі станем, а з нас зробяць такіх, як яны, нават з абразаннем, калі не будзе ніякага супраціву. А яго няма. Наадварот. Нельга супраць баксёра змагацца па шахматных правілах. Здаецца, гэта не патрабуе доказаў. Але во, патрабуе. Тэрарысты перабілі французскіх журналістаў, і тут жа заспявалі на розныя галасы «карысныя ідыёты» аб талерантнасці, аб «добрых» і «злых» мусульманах.

Я нічога не маю супраць ісламу. Гэта чыстая і недзе нават цнатлівая рэлігія. Але нам, хрысціянам, у сістэме ісламскіх каштоўнасцяў месца няма.

Забойца Брэйвік, рост папулярнасці антыісламскіх і антыіміграцыйных партый, рост напружанасці ў еўрапейскім грамадстве — гэта не проста высыпка на здаровым целе постіндустрыяльнага грамадства. За антыіміграцыйныя партыі галасуюць не безгаловыя адмарозкі, не купкі маргіналаў, а звычайныя людзі — рабочыя, лекары, інжынеры. Гэта сімптомы цяжкай хваробы. Ніводзін, нават самы недасведчаны лекар, не будзе лячыць сімптомы. Ён будзе лячыць хваробу, а не высыпку дурацкімі прыпаркамі. Але еўрапалітыкі імкнуцца вылечыць менавіта сімптомы. Шальмаванне радыкальных партый і дзеячаў — гэта прыпаркі, бо выбары ў Швейцарыі, Галандыі, Францыі ды Фінляндыі паказваюць, што партыі гэтыя — не маргіналы, а маюць шырокую падтрымку ў народзе. Іх галасы імкнуцца заглушыць істэрычным віскатам аб свабодах, правах, аб пагрозе фашызму і г.д. А тым часам мацнее негрыцкі, мацнее рэлігійная нецярпімасць мусульман. Колькі хрысціянскіх храмаў знішчана ў мусульманскіх краінах? Колькі іх там пабудавана? Хай лібералы ды праваабаронцы адкажуць. І распавядуць, як яны абараняюць правы братоў у Хрысце там, дзе быць хрысціянінам небяспечна для жыцця.

Фінская партыя «Сапраўдныя фіны» прапануе цалкам разумныя рэчы. Я ўважліва прачытаў іхны перадвыбарчы маніфест. Яны сцвярджаюць, што Фінляндыя не ў стане пракарміць сотні тысяч уцекачоў з Афрыкі ды арабскіх краін. Таму прапануюць зрабіць адпаведныя разлікі і прымаць абмежаваную колькасць прыхадняў. Ёсць і пункт аб тым, што «розныя групы прыхадняў павінны ў абавязковым і бясспрэчным парадку выконваць законы Фінляндыі, а не наадварот». Пакуль што такога няма. З прыхаднямі цацкаюцца. А сімптомы таго, што ніякай інтэграцыі мусульман у еўрапейскую цывілізацыю не будзе, становяцца ўсё больш выразнымі і злавеснымі.

На жаль, шматлікія трагедыі ў Іспаніі, Вялікабрытаніі, Францыі ды іншых еўрапейскіх краінах для еўраліберальных палітыкаў не служаць ніякімі доказамі. Спадзевы на «добрых» мусульман — недарэчныя.

Мяркуючы па сімптомах, вайна ісламу супраць еўрапейскай цывілізацыі абвешчана. Але еўрастраусы працягваюць сарамліва хаваць галоўкі у ліберальны пясок. Патрэбны зразумелыя і цвёрдыя законы: прыехалі да нас — жывіце па нашых законах.

Некалі італьянцы згадзіліся дазволіць пабудову вялікай сабарнай мячэці каля Ватыкана. Але пры адной умове: калі Мекку ўпрыгожыць вялікі каталіцкі сабор. Цяперашнія еўрапалітыкі на такі падыход здольныя ці толькі на саступкі?

**Якуб Лапатка, Хельсінкі**

# У Беларусі забароненыя этыкеткі на беларускай мове?

Прадпрымальнік з Віцебска распавёў пры чарговы выпадак дыскрымінацыі беларускай мовы.

«Аказваецца, у нас цяпер этыкеткі на беларускай — па-за законам. Я ў сябе ў Віцебску спрабую развіваць невялікую харчовую вытворчасць. Не ўсім жа чамаданамі гандляваць, хтосьці і ў рэальным сектары павінен працаваць. Дык вось, вырашыў я ў Новы год увайсці з новай прадукцыяй. Арганізаваў вытворчасць дыетычных хлябцоў з цэльнага збожжа. Рысавыя, пшанічныя, грачаныя. Правёў даследаванне рынку, закупіў і наладзіў абсталяванне, надрукаваў этыкеткі. Усяго ў мяне чатыры віды хлябцоў, і вырашыў я на адзін з іх ляпіць этыкетку на беларускай мове. А на астатнія тры — на рускай.

Зрабіў пробную партыю, аддаў у санстанцыю на аналіз, усё ў парадку. Цяпер трэба ісці ў Цэнтр стандартызацыі для атрымання важнай паперы — дэкларацыі аб адпаведнасці. Гэта апошні этап, пасля яго — адразу на паліцу ў краму. Але як бы не так.

Цэнтр стандартызацыі адмовіў мне ў выдачы важнай паперы на тыя хлебцы, што з беларускай этыкеткай. Кажуць, якая такая беларуская мова? Пішыце на рускай.

Я спачатку падумаў быў, што гэта жарт. Кажу, вось жа, ёсць дзяржаўны стандарт СТБ 1100-2007, у ім у п. 4.3 сказана, што этыкетка на тавары можа быць на беларускай і/або рускай. Ён што, пытаюся, не дзейнічае больш? А мне ў адказ: дзейнічае. Але яшчэ ў нас цяпер дзейнічае Тэхнічны рэглямент Мытнага саюза 022-2011, дзе сказана (п. 1 арт. 4.1), што ўсе тавары цяпер павінны маркіравацца на рускай мове, а пры вялікім жаданні можна прадубляваць на беларускай або казахскай. Але руская павінна быць абавязкова.

Карацей, сказалі мне, выкідвай партыю этыкетак на сваёй беларускай і замаўляй новую на рускай. Гэта значыць, руская мова ў нас цяпер больш важная. Вось такая ў нас роўнасць у МС. І пляваць Маскве на нашу Канстытуцыю і элементарныя нормы прыстойнасці».

**Belarus.d3.ru**

# Беларускія грошы будучыні: рублі ці талеры?

Крэатыўшчык з Кобрына Раман Дубінка прапанаваў канцэпт новых беларускіх купюр, падобных да еўра. Выявы разляцеліся па Байнэце, беларусам відавочна спадабалася ідэя абнаўлення грошай і «адкідання нулікаў».

Падабенства новых беларускіх рублёў да еўра прадказваў кіраўнік Беларусі год таму. Але аб тэрмінах дэнамінацыі казаць пакуль не даводзіцца. Паводле слоў Лукашэнкі, калі будзе адчуванне таго, што «эканоміка стала нармальнай».

У каментарах да канцэпту на сайце «Нашай Нівы» паўстала пытанне: а чаму рублі, а не талеры? Талеры ледзь не сталі беларускай валютай пры Кебічу (і не сталі праз рашэнне Кебіча).

У апытанні «Нашай Нівы» на тэму назвы нацыянальнай валюты ўзяло ўдзел больш за дзве тысячы чалавек. Абсалютная большасць, 79%, выказаліся за талеры, яшчэ 12% аддалі голас за еўра і толькі 6% — за рубель.

**АА**




**На выяве: першы злева слупок — канцэпт Рамана Дубінкі, другі злева — сучасныя беларускія рублі, два слупкі справа — канцэпты «талераў».**

**Кіно**

## «Левіяфан» сучаснай Расіі

Фільм расійскага рэжысёра Андрэя Звягінцава выйграў прэстыжную амерыканскую прэмію «Залаты глобус» (Golden Globe Award) у намінацыі «Найлепшы замежны фільм». Канкурэнцыю «Левіяфану» ў барацьбе за «Залаты глобус» склалі карціны «Мандарыны» (Эстонія), «Іда» (Польшча), а таксама «Форс-мажор» (Швецыя) і «Развод Вівіян Амсалем» (Ізраіль).

Апошнім расійскім (а дакладней савецкім) фільмам, які да «Левіяфана» ганараваліі «Залатым глобусам», была «Вайна і мір» рэжысёра Сяргея Бандарчука ў 1969-м. Беларуская карціна яшчэ ні разу рэальна не прэтэндавала ані на «Глобус», ані на «Оскар».

...На ўзбярэжжы Баранцава мора стаіць хата працавітага Міколы. Хату, як і астатнюю маёмасць, хоча сканфіскаваць карумпаваны мэр. Мікалай просіць дапамогі ў старога армейскага сябра Дзмітрыя, цяпер адваката. Той падказвае: закон не дапаможа, уратуе толькі кампрамат на мэра.

Так пачынаецца пераказ біблейскай гісторыі барацьбы з марской пачварай Левіяфанам з Кнігі Ёва, перанесены ў Расію XXI стагоддзя. Безвыходнасць і гаралка, карумпаваны ўрад, які зросся з Рускай праваслаўнай царквой, — такі Левіяфан сучаснай Расіі.

Галоўныя ролі ў драме выканалі Аляксей Серабракоў, Алена Лядава, Раман Мадзянаў і Уладзімір Удавічэнка.

«Расія хоча выйграць «Оскар» з антырасійскім фільмам», — такімі словамі абвесціў часопіс Time высоўванне «Левіяфана» на «Залаты глобус».

Брытанская газета Evening Standard наадварот крытыкуе «Левіяфан» за песімізм: маўляў, фільм паказвае, што ў Расіі так было і будзе заўсёды.

Па словах самога Звягінцава, жывучы ў Расіі, адчуваеш сябе, «як на мінным полі».

«У вас няма асаблівых перспектыў — ні ў жыцці, ні ў прафесіі, ні ў кар'еры, — калі вы не «падключаны» да каштоўнасцяў сістэмы. Гэта дурны грамадскі лад, вечны праклён нашай тэрыторыі. Мне 50 гадоў, і я ні разу ў жыцці не галасаваў на выбарах, бо я абсалютна ўпэўнены, што ў нашай сістэме гэта цалкам бессэнсоўна», — сказаў Звягінцаў у інтэрв'ю брытанскай газеце «Гардыян».

У расійскім пракаце фільм стартуе толькі 5 лютага, прычым у цэнзураванай версіі, без мату (якога ў арыгінале нямала). У Беларусі на шырокіх экранах стужка з'явіцца адначасова.

**Аляксандр Арсёнаў, СГ**

**«Залаты глобус»—2014**

Найлепшы фільм-драма — «Малалецтва» Рычарда Лінклейтэра.

Найлепшая камедыя / мюзікл — «Гатэль «Гранд Будапешт» Уэса Андэрсана.

Найлепшы рэжысёр —Рычард Лінклейтэр («Малалецтва»).

Найлепшы сцэнар —«Бэрдмэн» Алехандра Гансалеса Іньярыту.

Найлепшы камедыйны серыял — «Відавочнае», найлепшы драматычны — «Каханкі».

Найлепшы анімацыйны фільм — «Як прыручыць дракона — 2».



**Мова наша**

## Калавур, Калаўр ці Калаур?

З прызначэннем новага старшыні Нацбанка паўстала пытанне, як яго прозвішча правільна пісаць па-беларуску: Калавур, Калаўр ці Калаур? Ёсць пытанні і да націску. КалаУр ці КалАур?

### Варыянт 1. Калаур

Такую форму выкарыстоўвае сайт Нацбанка і іншых афіцыйных структур, а таксама дзяржаўныя газеты і інфармагенцтва БелТА. Як патлумачылі ў Нацбанку, менавіта так запісвае сваё прозвішча сам старшыня, запаўняючы дакументы па-беларуску.

Аднак гэты варыянт памылковы. Пасля галоснай «у» мусіць змяняцца, калі націск на яе не падае.

### Варыянт 2. Калавур

Гэтая форма слушная, калі націск падае на «у» — КалавУр. Тады ўзнікае прыстаўная «в».

Чытач «Нашай Нівы» з Берасцейшчыны даслаў скан свайго пашпарта. У ім прозвішча па-беларуску напісана як «Калавур», па-руску — «Каллаур».

А на Піншчыне, напрыклад, ёсць вёска Калавуравічы. Такая шыльда вісіць у яе пачатку.

### Варыянт 3. Калаўр

Родныя старшыні Нацбанка, размаўляючы з карэспандэнтамі «НН», прамаўлялі прозвішча з націскам на другі склад — «КалАўр». У такой сітуацыі прыстаўны зычны з'яўляцца не будзе, затое, паводле агульнага правіла, «у» пераходзіць у «ў», патлумачылі нам у Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук.

Такім чынам, існуюць два варыянты гэтага прозвішча з рознымі націскамі і напісаннем: КалавУр і КалАўр. Паколькі ў сям'і і на радзіме старшыні Нацбанка ўжываюць другі варыянт, то будзем так пісаць і мы. А афіцыйным СМІ і Нацбанку раім па-беларуску пісаць з «у» кароткім.

**Ягор Марціновіч**

**Паэзія**

## Святлана Куль.
## Мене. Тэкел. Упарсін

Як сядзе сонца — з ночы да зары
Ідуць па сенажаці Касары,
Працуюць, пот ліецца з-пад каронаў.
Каспар, ды Балтазар, ды Мельхіёр
Кладуць траву сушыцца паміж зор
На азярод сузор'я Арыёна.
Уважаць і адмераць нагары
Тры каралі, святыя Касары
Для кожнага пракосы і загоны:
Таму — багацце, гэтым — недарод,
Вайну ці мір на ўвесь наступны год,
Падзякі, падарункі і праклёны.
Накосяць лёс у небе Касары,
Пазначаць, дзе чужыя, дзе сябры,
І вызначаць, хто сёлета гатовы.
Пасля заплацяць па яго віне —
Напішуць на крамлёўскае сцяне
Тры запаветных, тры апошніх словы.

**Сцісла**

**Памерла Алена Абразцова**

Расійская оперная спявачка Алена Абразцова памерла ў панядзелак, 12 студзеня, у Германіі ў веку 75 гадоў. У лістападзе Абразцова па парадзе дактароў з'ехала на зіму ў Германію з-за клімату. У рэпертуары Абразцовай былі творы больш за 100 кампазітараў. Яна выконвала як оперную, камерную і духоўную музыку, так і рускія народныя песні і рамансы, а таксама класічныя аперэты і джазавыя стандарты. У 1976 Абразцова стала народнай артысткай СССР.

**У Мінску адчыняецца выстава памяці Тадэвуша Рэйтана**

15 студзеня а 17 у галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі адкрыецца выстава, прысвечаная памяці Тадэвуша Рэйтана, шляхціца, дэпутата ад Навагрудскага ваяводства ВКЛ на Сойм 1773 года. Ён на чале невялікай групы паслоў з беларускіх земляў выказаў рашучую нязгоду з падзелам Рэчы Паспалітай між Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй. На выставе будуць і творы сучасных мастакоў, і рэпрадукцыі мастакоў XVIII—XX ст.

**18 студзеня будзе асвечаны помнік на магіле Міхася Чарняўскага**

Гісторык і археолаг Міхась Чарняўскі быў адным з пачынальнікаў падпольнага руху за незалежнасць Беларусі. Яго не стала ў студзені 2013-га. Ён пахаваны на радзіме, у вёсцы Круці на Мядзельшчыне. Скульптуру на яго магіле выканаў знаны майстар і паплечнік па нацыянальным руху Алесь Шатэрнік.

Сям'я Чарняўскіх арганізуе аўтобус з Мінска для паездкі на асвячэнне.

**АБ**

## ХАКЕЙ

### Дзве гульні «Дынама»

**15 студзеня мінскія «зубры» прымаюць яраслаўскі «Лакаматыў». Пачатак а 19.** 17 студзеня «Дынама» прымае падольскі «Віцязь». Пачатак а 17. Абедзве гульні пройдуць на «Мінск-Арэне» ў рамках рэгулярнага чэмпіянату КХЛ.

## КАНЦЭРТЫ

### «Крама»

**15 студзеня ў бары Doodah King (Берсана, 14)** выступае гурт «Крама». Пачатак у 20.30.

### «Нейра Дзюбель» у Барысаве

**16 студзеня ў «Ірландскім пабе» (Ватуціна, 32а)** у Барысаве пройдзе канцэрт вядомага рок-гурту «Нейра Дзюбель». Пачатак а 20. Білет — 165 тысяч.

### Марэк Стэфаньскі

**17 студзеня а 19 у Вялікай зале Філармоніі (Незалежнасці, 50)** у межах цыкла канцэртаў «Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва» выступіць тытулярны арганіст Марыяцкай базілікі ў Кракаве Марэк Стэфаньскі.

## ІМПРЭЗЫ

### Сустрэча з фатографам Джонам Кунстадтэрам

**15 студзеня адбудзецца творчая сустрэча з фатографам Джонам Кунстадтэрам.** Джон Кунстадтэр фатаграфуе з 1968 года. У 2005 Джон пакінуў амерыканскую дыпламатычную службу і канчаткова прысвяціў сябе фатаграфіі. У Беларусі пачаў фатаграфаваць у 2000 і ўжо шмат гадоў як адводзіць на здымкі ў нашай краіне да трох месяцаў штогод. Сустрэча пройдзе на «Арт-сядзібе» (Незалежнасці, 58, офіс 430). Пачатак а 18.

### Баль у Залессі

**17 студзеня а 18 у Музеі-сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі (Смаргонскі р-н)** адбудзецца дабрачынны баль. Вы навучыцеся танцаваць, як у эпоху Міхала Клеафаса Агінскага. Цана білета — 300 тысяч рублёў.

### «Краіна Пагранічча»

**16 студзеня на сядзібе ТБМ (Румянцава, 13)** а 17 пройдзе прэзентацыя кнігі Алеся Краўцэвіча «Краіна Пагранічча», у якую ўвайшлі выбраныя эсэ, рэпартажы, публіцыстыка, навукова-




папулярныя працы, створаныя за апошнія тры дзесяцігоддзі і аб'яднаныя агульнай тэмай гісторыі.

### «Шчадруха — калядная весялуха»

**17 студзеня ў 12.30 у Беларускім музеі народнай архітэктуры** і побыту пачнецца свята «Шчадруха — калядная весялуха». Сёлета музей прэзентуе традыцыйную моладзевую гульню «Пячы ката», якая з'яўляецца кандыдатам на ўнясенне ў спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Вас чакае майстар-клас па вырабе абярэга «Павук», калядныя варожбы, гульні і забавы, а таксама паказ традыцыйнага лялечнага тэатра «Батлейка».

## ВЫСТАВЫ

### Georgian Video Art

**Галерэя сучаснага мастацтва «Ў» (Незалежнасці, 37а)** падрыхтавала выставу-прэзентацыю Georgian Video Art, якая паказвае альтэрнатыўную лінію развіцця сацыяльна-культурнага жыцця ў Грузіі праз праекты, якія адлюстроўваюць і аналізуюць грузінскую сітуацыю, дэманструюць розныя візуальныя перспектывы рэальнасці і дазваляюць стаць сведкамі/назіральнікамі пост-савецкага культурнага жыцця Грузіі.

## ТЭАТРЫ

### 15 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Местачковае кабарэ, Старамодная камедыя
**Лялек** — Марынка-крапіўніца
**Опера** — Травіята

### 16 студзеня

**Балет** — Дон Кіхот
**Беларускай драматургіі** — Тры Жыззлі
**Купалаўскі** — Местачковае кабарэ
**Лялек** — Тарцюф





### 17 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Мабыць?
**Купалаўскі** — Translations
**Лялек** — Воўк і сямёра казлянят
**Опера** — Аіда

### 18 студзеня

**Балет** — Шапеніяна. Кармен-сюіта. Шэсць танцаў.
**Беларускай драматургіі** — Адэль
**Купалаўскі** — Лістапад. Андэрсен
**Лялек** — Вясёлы цырк

### 20 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Купалаўскі** — Тата
**Опера** — Тоска




### Бліжэй, чым блізка

Што можа быць бліжэйшае, чым позірк, дотык, пацалунак ці малітва? Гэта цягам паўгода высвятлялі 10 беларускіх фатографаў, якія ствaралі ў межах навучальнага курсу свае фотапраекты. Вынікі яго экспануюцца ў творчай прасторы «ЦЭХ» (Незалежнасці, 58/6).

### Тэатр «Зніч»

**20 студзеня ў Вялікай зале Філармоніі (Незалежнасці, 50)** святкуе 25-годдзе адзначае паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зніч». Для гледачоў падрыхтаваная рэтраспектыўная праграма «Самнасам». Пачатак а 19.

## КІНО

### Ноч у музеі: Таямніца грабніцы

**Жанр:** камедыя, прыгоды, сямейны
**Рэжысёр:** Шон Леві
**У ролях:** Бен Стылер, Робін Уільямс, Оўэн Уілсан, Стыў Куган, Рыкі Джэрвэйс, Дэн Стывенс, Рэбел Уілсан, Сайлер Джызонда, Рамі Малек
ЗША, Вялікабрытанія, 98 хв.

Начны вартаўнік Музея натуральнай гісторыі ў Нью-Ёрку Лары Дэйлі ў роспачы: яго жывыя сябры-экспанаты знянацку сталі дзіўна сябе паводзіць. А ўсё таму, што старажытнаегіпецкая залатая пласціна, якая іх ажыўляе, псуецца. Толькі бацька фараона Акменра ведае таямніцу магічнага артэфакта, але яго мумія далёка: яна выстаўлена ў Брытанскім музеі прыродазнаўства. Каманда герояў-экспанатаў разам з Лары здзяйсняе падарожжа ў Лондан. Яны павінны аб'яднацца з брытанскімі музейнымі жыхарамі і адшукаць сакрэт аднаўлення пласціны, бо без яе магічная ўздзеяння сябры Лары ператворацца зноў у звычайныя бяздушныя экспанаты.

Дзеянне трэцяй часткі франшызы «Ноч у музеі» пераносіцца з Нью-Ёрка ў Лондан. На кароткі час можна ўбачыць лонданскія краявіды і пазнаёміцца з ажыўленымі экспанатамі Брытанскага музея прыродазнаўства, але гэта толькі дэкарацыя для прыгодаў тых самых герояў: Лары (Бен Стылер), Джэдзідаі (Оўэн Уілсан), Актавіуса (Стыў Куган), Акменра (Рамі Малек) і іншых. Робін Уільямс тут з'яўляецца ў ролі жывой васковай фігуры Тэадора Рузвельта, гэта адна з апошніх роляў акцёра.

Фільм вясёлы, дынамічны, не абцяжараны глыбокім сэнсам. Найлепей падыходзіць для сямейнага прагляду, асабліва спадабаецца дзецям, бо мае пазнавальны характар: дзе яшчэ ўбачыш жывыя музейныя экспанаты?

**Настасся Уласава**



# Яе кахаў Якуб Колас

**Сяргей Кузняцоў адшукаў фота «найпрыгажэйшай кветкі Палесся».**

Так Якуб Колас у трылогіі «На ростанях» называў Ядвісю, у якую быў закаханы малады настаўнік Лабановіч. Дзякуючы публікацыі пра лёс Ядвігі Бахенскай (гл. «Наша Ніва» №13 (850), 02.04.2014), якая была правобразам гераіні, удалося адшукаць яе ўнікальнае фота — якраз з таго часу, калі Ядвіга натхняла маладога настаўніка Міцкевіч — будучага Якуба Коласа.

На публікацыю ў «НН» адгукнуліся нашчадкі сваякоў Канстанціна Бахенскага, мужа Ядвігі. У сямейным архіве масквіча Міхаіла Кузьміча, бабуля якога была сястрой Канстанціна, захаваўся «акурат такі» фотаздымак. На ім маладая Ядвіга стаіць побач з мужам. Хоць на фота і адсутнічае дата, можна ўпэўнена назваць год — 1906. Ядвіга і Канстанцін ажаніліся ў студзені 1906, а ў студзені 1907 у іх нарадзіўся сын. На здымку маладая пара яшчэ без дзяцей, але ў абаіх на руках пярсцёнкі, а значыць, фота зроблена ўжо пасля шлюбу.



**Алена Кузьміч (Бахенская), фота 1925, Гомель, праз усе нягоды беражліва захавала сямейны архіў.**

Цяпер можна дакладна назваць таксама дату і месца Ядвісінага вяселля. Нашчадкам Бахенскіх удалося расшукаць у беларускіх архівах запіс аб шлюбе: «29 студзеня 1906 года ў Лунінецкай рымакаталіцкай капліцы Пінскага прыходу ўзялі шлюб мешчанін г. Пружаны Гродзенскай губерні Канстанцін-Леанард Бахенскі, халасты 29 гадоў, і дваранка Слонімскага павета Гродзенскай губерні Ядвіга-Луцыя Баранцэвіч, дзяўчына 17 гадоў».

Як захаваўся гэты фотаздымак і як ён трапіў у Маскву? Найбольш верагодна, што фота спачатку належала маці Канстанціна — Соф'і, якая жыла ў Лунінцы. Пасля яе смерці ў 1916 г. сямейныя здымкі дасталіся маладшой дачцэ Алене, сям'я якой таксама жыла ў Лунінцы. Пасля смерці маці Алена пераязджае ў Гомель, куды перавялі яе мужа, інжынера-чыгуначніка Васіля Кузьміча. Наступныя дваццаць гадоў Кузьмічы пражывуць у Гомелі. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, якія выпалі на долю гэтай сям'і ў савецкай дзяржаве і небяспеку, якія неслі «буржуазныя» фотаздымкі, Алена рупліва захоўвала сямейны архіў.

У 1936 годзе сям'я Кузьмічоў аказалася ў Свярдлоўску. З чым быў звязаны такі далёкі пераезд, высветліць не ўдалося. Фотаздымак апынуўся ў Расіі і захоўваўся ў Алены да яе смерці ў 1979 годзе. Праз два гады Міхаіл Кузьміч, унук Алены, пераязджаючы са Свярдлоўска ў Маскву, забраў фота з сабой.



**Ядвіся з мужам, Канстанцінам Бахенскім. 1906 год.**



**Такой была Ядвіся, калі яе кахаў Якуб Колас.**

Стары здымак, які з той пары захоўваецца ў сямейным архіве Міхаіла Кузьміча, не быў, на жаль, падпісаны. А таму і не было абсалютнай пэўнасці, што маладая жанчына на фота — менавіта Ядвіга. Спецыяльная партрэтная экспертыза, праведзеная гэтай восенню, пацвердзіла тоеснасць асобы на здымку з тым фота Ядвігі, якое раней друкавалася ў «НН».

Здымак маладой Ядвісі, трошкі старэйшай ад той, якую пакахаў малады вясковы настаўнік, публікуецца ўпершыню.

**Сяргей Кузняцоў**

нар. у 1982 у Гродне. Юрыст, палітолаг. Жыве ў Варшаве.

**Фотафакт**



**Віцебск, Успенскі кафедральны сабор. І ручаінка Віцьба, насуперак уяўленню, што раней усе рэкі былі паўнаводныя.**

Бібліятэка Кангрэса ЗША выставіла ў інтэрнэт-доступ каляровыя здымкі Беларусі 1912 года. Іх зрабіў, выкарыстоўваючы апарат уласнай канструкцыі, Сяргей Пракудзін-Горскі, расійскі хімік і фатограф. У 1911—1912 гадах з нагоды святкавання стагоддзя перамогі ў вайне 1812 года Пракудзін-Горскі фатаграфаваў месцы, звязаныя з напалеонаўскай кампаніяй. Дзякуючы гэтаму, на яго фотапласцінах засталіся захаваныя беларускія краявіды.

## Каля роднай вёскі алігарха Чыжа знайшлі рымскія манеты

Адшукаў іх брэсцкі мастак Анатоль Жалудко. Ён лічыць невыпадковым факт, што менавіта на беразе канала Вінец, дзе раней знаходзіліся манеты ВКЛ, так званыя «барацінкі», праявіліся і больш ранняя манеты.

«Манеты — сплаў серабра з волавам. Пазнаюцца выявы імператара, чытаюцца літары», — распавёў спадар Анатоль. Ён зазначыў, што рымскія манеты траплялiся тут і раней. Самы вялікі скарб яшчэ ў савецкія часы падняў у адной з вёсак Бярозаўскага раёна экскаваташчык. Там было каля 400 манет.

Спадар Жалудко лічыць, што яго знаходка пацвярджае версію, выказаную даследчыкамі Ю. Барысюком і С. Янюком: тут, ад ракі Мухавец праз раку Вінец у Ясельду і далей у Прыпяць, прылягала адгалінаванне Бурштынавага шляху з басейна Балтыйскага ў басейн Чорнага мора. Каля вёскі Мухаўлокі быў волак з прытоку Буга ў прыток Прыпяці.

Спадар Жалудко кажа, што яго-ная знаходка пойдзе ў пераліку ўжо пад нумарам 43, а гэта значыць, што рымскіх манет у нашай зямлі шмат: «У лесе ды на балоце іх ніхто рассяваць не стаў бы — гублялі купцы па дарозе».

Дзе ж гэтае мноства ўнікальных манет?



«Яны вокамгненна разыходзяцца па калекцыянерах, — тлумачыць знаходнік. — Хоць маюць адносна невялікую вартасць, але цікавыя як гістарычныя артэфакты. Вакол іх, як вакол таго скарбу ў Бярозаўскім раёне, нават крымінальных гісторый са знікненнем іх са службовых сейфаў».

Знойдзеныя манеты і артэфакты спадар Жалудко далучае да свайго ўласнага гісторыка-этнаграфічнага музея. У ім ужо каля дзвюх тысяч экспанатаў. Музей мае стаць адным з пунктаў паказу ў этнаграфічна-турыстычным цэнтры «Наш родны кут Сабалі». Цэнтр мае быць уведзены ў эксплуатацыю ў 2015 годзе. Дзеля яго побач з трасай М1 загадам Лукашэнкі вылучаныя 300 гектараў зямлі. На ёй будуюць гатэль, рэстаран, лыжаролерную трасу, ферму буйной рагатай жывёлы, аўтапаркоўку. 15 мільёнаў даляраў на стварэнне цэнтра ў сваёй роднай вёсцы выдаткаваў уласнік групы кампаній «Трайпл» Юрый Чыж.

**Яўген Бяласін, Брэст**

# На Каляды

**Таццяна Барысік.**
Апавяданне.

**Працяг. Пачатак у «НН» №1.**

Цыганская Мадонна маўчала, часам дзеля прыліку ўсміхалася. Астатнія пачувалі сябе бы рыба ў вадзе, смурод не замінаў, яго нібы не заўважалі. Сцёпішын сын кульнуў яшчэ — твар адразу пачырванеў, шапка з'ехала набок, з-пад скуранкі з падзёртымі локцямі тырчэла крысо зашмальцаванага кабата, мусіць матчынага. «Дык алкаш жа! А я перад ім лістом сцялюся, што тая сямнаццатка», — чарговы раз расчаравалася Любка ў сваіх надзеях. Калядаванне адразу страціла сэнс, хоць Заяц адорваў шчодра: паклаў у торбу пляшку гарэлкі, бляшанку кансервы, на хвілінку задумаўся і, нібы вяртаючы пазычанае, аддаў Валі проста ў рукі слоік грыбоў.

Калядоўшчыкі выкаціліся з хаты, а ён, параіўшы яшчэ зайсці да Савы, зашчапіўся на клямку, патэпаў да тэлевізара. «Вось зараз вазьму пульт, ён пстрыкне і сам уключыцца», — цешыўся стары сваім набыткам, як дзіця малое. І быў бы, мусіць, шчаслівейшы, чым у маладосці, каб не кляты ўспамін-назола. Ён, пятнаццацігадовы падлетак, навучэнец першага курса сельгастэхнікума, сядзіць за сталом і пад матчыну дыктоўку піша на чыстым аркушы паперы: «Заяўляю вам, што партыйная грамадзянка Патупчык В. спраўляе рэлігійныя культы і запрашае калядоўшчыкаў у хату...» І не ў галаве яму, што даносіць на сваю першую настаўніцу Веру Гаўрылаўну.

«Ат, скуль жа я ведаў, што яна дзявочым прозвішчам пісалася, яе ж усе па мужу Гуляевічыхай клікалі, смаркач яшчэ быў, нават на танцы хадзіць саромеўся,калі і папрасіла маці, дык што? Не адмовіш. Пакуль вывучыла яго ў горадзе, колькі яна бедная намучылася! Мо пасварылася з Гуляевічыхай у краме, а тая таксама баявая была, ды ўпартая — нікому не саступіць. Што было — тое сплыло. Як меўся за мной грэх, дык адкупіў сёння — аддзячыў калядоўшчыкам шчодра», — урэшце прагнаўшы надакучлівую згадку, бы кусліваю муху, стары ўкінуў у рот смактушку «Барбарыс». «Пенсія ў мяне харошая. Нічога сабе не шкадую. Купляю што хачу. Кожную аўталаўку віно бяру, каўбасы якой, цукерак доўгаіграюшчых грам дзвесце пяцьдзясят — трыста. Дай бог і памерці пры гэтым! Пуста ў Засценку. На зіму з'ехалі ўсе, у каго кватэры ў горадзе ёсць. А ў мяне няма, бо ўсе грошы ў жалеззе ўкладаў. Ну, і чорт з імі, хай хоць усе папаз'язджаюць. На старасці не весялосць, а спакой трэба».

«Ну, не пашчасціла як заўжды. Пэўна, доля такая: адной век дажываць, — разважала Любка. — А раз так — трэба вяртацца дахаты ды пашукаць грошы, што цётка на смерць прыхавала. Вазьму няшмат, хаця соценькі тры — усё адно інфляцыя з'есць». Сумная і паспакайнелая, яна не хацела разам з усімі ісці да Савы. І прычынаю такога рашэння быў не толькі Сцёпішын сын, але і кошык памідораў гатунку «Чорны прынц», скрадзены ёю ўлетку з гэтага падворка. Казалі, дачка Савы Галя кляла злодзея на ўсю вуліцу, зычыла пакласці тыя памідоры на жалобны стол. Хаця за руку Любку ніхто не злавіў, а вясковыя праклёны былі ёй да лямпачкі, ведама, сабака брэша — вецер носіць, ля знаёмага пахіленага плота яна пачувала сябе няўтульна.

— Нешта ўчадзела я, галава баліць, пайду дадому, можа, таблетку якую вазьму, —пажалілася Любка.

Трымаць яе ніхто не збіраўся:

— Ідзі, цётка, нам больш будзе! — рагатнуў Казёл.

— Нехрэн піць, раз табе віно не йдзе, — вякнуў наўздагон Чалавек у скуранцы.

Галя не чакала ад жыцця ніякіх цудаў ужо даўно. Пагадавала і папарадчыла дзяцей, два гады таму пахавала мужа. Адпрацаваўшы чвэрць стагоддзя на хімкамбінаце, сышла на льготную пенсію, каб даглядаць матулю. Старая апошнім часам аслабела, рэдка падымалася з ложка. Галя ўлетку корпалася ў гародзе, хадзіла па лесе, зімою — чысціла снег, паліла ў печы. Жанчына цешылася спакоем, часам здавалася, што нікуды яна і не з'язджала, не было ніякага горада, яна дасюль маленькая, проста маці прыхварэла, а сястра некуды пайшла з дому. Сёння яна ўтушыла чыгунок бульбы, наварыла кісяльку, пакарміла маці, ціхенька сядзела ля акна, глядзела, як скача па гародзе беленькі зайка. І раптам расчыняюцца дзверы — і на парозе з'яўляецца, нібы Піліп з канапель, цуд прыроды — Коля, Сцёпішын сын. Яе першае каханне, самы гожы хлопец у Лужках. А калісьці даўно, здавалася, ужо не ў гэтым жыцці, гадоў трыццаць таму, яна і марыць не смела пра такое шчасце. У тым далёкім жыцці Коля быў вайскоўцам-прыгажуном, сынам загадчыка пошты, а Галя сціплай школьніцай у сястрыных абносках, дачкой удавы, простай калгасніцы. Яна была закаханая ў яго, ён проста не заўважаў яе існавання, хапала смялейшых і прыгажэйшых.

У цяперашнім жыцці з'яўленне Колі з усёй лужкоўскай грамадой Галю не ўзрадавала. Пачуўшы пра вяртанне ў Лужкі Сцёпішынага сына і ягоныя выбрыкі, яна ў думках дзякавала лёсу, што ў маладосці ён не ўпадабаў яе: «Во, зараз жыву сабе спакойна і мамачку гляджу, а так бы хавала грошы і бутэлькі па ўсёй хаце і нервы свае трапала».

— Гэта ж Сцёпішын сын! У кладоўку заглядай і каўбаску даставай! — галёкала Чацвяртушка.

«Ну, нікуды ад іх не падзенешся, ні ў будні, ні ў святы. Аднаго агарод пераворваць паклічаш — цэлая капэла збяжыцца і ўсім налівай! Але ж і без іх ніяк. Плот абяцалі паставіць, дый калі з маці, крый божа, што, хто дапаможа?»

І тут здарыўся яшчэ адзін цуд. З ложка ўстала, выпаўзла на сярэдзіну хаты старая. Чаму яе клікалі Савою ніхто з прысутных не ведаў, тыя, што так прадражнілі бабку, даўно адышлі ў лепшы свет. Сава дашкрэбала да Андрэйкі і пачала жаліцца:

— Ой, мая дзетка, ці не ведаеш ты, хто ж у нас у Засценку ў Святыя вечары малоціць. Так цапамі ляскаюць, так ляскаюць, аж галава шуміць!

Андрэйка разявіў рот ад здзіўлення:

— Што такое баба кажа? Гэта ж летам камбайн малоціць!

— Бачыце, зусім дрэнна ёй, бярыце во бутэлечку віна і йдзіце далей, гуляйце, — прапанавала Галя, са спадзевам хутчэй пазбавіцца ад вясёлай кампаніі.

— Мы да такіх гадоў не дажывём, — зазначыў на развітанне Коля. Бабка яшчэ раз пажалілася на малацьбітоў, пасля патэпала назад да ложка. Зірнула на покуць — а там яе маці-нябожчыца сядзіць.

— То здані ўжо,— прашамкала Сава сама сабе, перахрысцілася, супакоілася і нечакана хутка заснула. Беленькі зайка спярша стаіўся за яблыняй, а потым паскакаў па вуліцы паўз заснежаныя платы.

Накалядаваную бутэльку Казак, Казёл і Сцёпішын сын распілілі лёгка і нязмушана, бы ліманад «Бурацїна», па дарозе да апошняй жылой хаты — сядзібы Іванавіча.

У вочы — Іванавіч, за вочы — Свіны Татка. Для мясцовых ён быў чалавекам-таямніцай. З'явіўся ў Засценку нечакана, ніхто не ведаў адкуль, за якую цану і пры якіх абставінах купіў хату колішняга паштара. Спярша, як толькі прыехаў, кажуць нават на вуліцу не выходзіў, усё болей у хаце ці пуні адседжваўся, нібы хаваўся ад каго. Пасля асвоіўся, завёў гаспадарку, гандляваў разведзеным спіртам. Пагаласкі пра Іванавіча хадзілі самыя неверагодныя, толькі нічога пэўнага пра яго не ведаў ніхто.

Гэты падворак Андрэйку з Валяй быў добра знаёмы. Неаднойчы яны куплялі ў Іванавіча спірт, мянялі збожжа і камбікорм, выграбалі за паўлітру гной з хлява. За спірт усё рабілася, касілася і кармілася. Спірт і ферма побач сталі асноўным сакрэтам поспеху прыватнай гаспадаркі. «Я пакажу, як трэба жыць!»— часам хваліўся ўвішны гаспадар перад засцянкоўцамі. А тыя адно пасміхаліся ў адказ: маўляў, тут жылі людзі не роўня табе — ніводзін не разбагацеў. Раней Іванавіч гадаваў в'етнамскіх свіней, у хляве заўжды рохкала чацвёра, а то і шасцёра. А як зачынілі ферму, дык халяўнае збожжа за паўлітру больш ніхто не прынасіў. Пакрысе свінні звяліся, а мянушка Свіны Татка засталася.

Захмялелая калядная чарада ўвалілася да Свінога Таткі без грукату ў дзверы, адразу з песняю. Дакладней, спявала адна Валя, Андрэйка бязладна гоцаў побач, Сцёпішын сын цягнуўся следам. На здзіўленне хата аказалася адзінаю, дзе гула не надта шматлюдная бяседа. За сталом сядзелі чацвёра: сам Іванавіч, чэзлы маладзён з мутнымі вачыма, дзве дзеўкі — адна бялявая маладзейшая і худзейшая, другая чарнявая — старэйшая і паўнейшая, пазногці ў абедзвюх —доўгія, пад хахламу распісаныя. Маладзён ужо ладна набраўся, цяпер матляўся на лаўцы, бы першамайскі сцяг ля канторы, і бубнеў сам сабе пад нос нешта няўцямнае. Бландзінка пілавала свае дзівосныя кіпці, часам вісла на шыі ў п'янага маладзёна і скуголіла: «Валера, мне ску-у-у-шна». Але той не звяртаў увагі. Чарнявая, наадварот, адрывалася па поўнай. То ўпарта даказвала сваім сабутэльнікам: «Ды я ў рэсторане бываю чашчэ, чым на свежым воздухе. Ды Ахмет міня ў Турцыю зваў! Кіёсак закроем і паедзем». То са словамі: «Гуляют усе! За цібя калым аддам...» — кідалася ў скокі.

Казак, Казёл і Чалавек у скуранцы спярша крыху зніякавелі ад такой неспадзяванкі.

— Гэта мая гомельская радня,— нібы апраўдваючыся, паведаміў Свіны Татка.

— А гэта во Сцёпішын сын! Святы вечар, багаты вечар! Іванавіч, пасып медзь — і авечкі не будуць хварэць, — не здавалася Чацвяртушка.

— Ражаным — сто грам! — завішчэў маладзён.

Коля асвойтаўся і хціва пацягнуўся за чаркай. Андрэй без запрашэння прысеў за стол бліжэй да гарадскіх дзевак, яны абедзве яму спадабаліся. Бялявая грэбліва скрывіла пыску. Жвавы Казёл не заўважыў, а зухавата пасунуўся яшчэ бліжэй.

— Э, не, так справа не пойдзе! — падаў голас Свіны Татка. — Як я малы хадзіў са сваім бацькам калядаваць, дык такі артыст быў, што нават на пузе танчыў! А вы два разы тупнул — і налівай?

Валя ўтаропілася на яго і зразумела, што тут нічога, апроч пяцідзесяці грамаў, не выцыганіш. Ведаючы Свінога Татку не першы дзень, гэта сцяміў і Андрэй. У дурнаватым інтэрнаце яго ніхто не вучыў на пузе танчыць, таму ён піхнуў у бок Сцёпішынага сына:

— Дзядзька, а дзядзька, хаця ты патанчы. А то цётка Валя пяе, я скачу, як казёл, а ты толькі валочышся следам ды гарэлку п'еш!

Чалавеку ў скуранцы дзявацца не было куды. Выпіць яшчэ хацелася. А з гэтых недаробкаў што ты возьмеш! Нідзе не былі, нічога не бачылі! І ён рашыўся.

— Што ты лыбішся, лахудра маляваная! —крыкнуў ён чарнявай, што сядзела і пагардліва ўсміхалася.

Тая спрабавала агрызнуцца, прыстрашыла нейкім Ахметам, але хутка змоўкла, бо Ахмет быў далёка, а прысутныя бараніць яе не дужа кідаліся.

Сцёпішын сын выйшаў на сярэдзіну хаты, хмельная кроў віравала ў галаве горнаю ручаінай. І на якое імгненне падалося, нібыта ён ізноў малады ў бялюткіх фірмовых красоўках, першы хлопец на ўвесь Лужок, на святочнай дыскатэцы у бабруйскім Доме культуры танчыць ніжні брэйк, вабныя дзеўкі стаяць кружком і захапляюцца яго ўмельствам! Але няма таго, што раней было...

Спіна ўпарта не хацела варушыцца, і срака разам з усім заднім мостам пайшла кудысьці ўбок і ніяк не жадала вяртацца на месца. Танцор у адстаўцы падрыгаў трохі нагамі, ледзьве перавярнуўся на пуза. Паўбутэлькі спірту зарабіў, але самастойна ўзняцца з падлогі ўжо не здолеў. На шчасце, падбегла Чацвяртушка, паклаўшы доўгачаканае пітво ў торбу, дапамагла ўстаць:

— Во, набраўся як бэля,цяперака дадому не зацягнем! Іванавіч, мы табе памагалі, і ты нам пажамы, няхай у цябе праспіцца.

— Ладна, валачыце яго да кладоўкі ў катух, туды, дзе ягнятка, яно шчэ слабенькае, дык я ў хату забраў, пакуль маразы. Тамака і салома, і палавік стары, цяплей будзе...

Бразнула клямка, абабітыя дзерманцінам дзверы выплюнулі ў начную цемру самых цягавітых калядоўшчыкаў. Свіны Татка азірнуўся навокал: недапечаны Валера хроп, уклаўшыся галавою на стол, ягоная сяброўка шкамутала яго і працягвала канючыць. Чарнявая гаманіла невядома з кім. Рэстаран, Ахмет і Турцыя не сыходзілі з языка.

— Ды сціхні ты ўжо са сваім Ахметам! — гыркнуў гаспадар, страціўшы цярпенне, і пайшоў да прыпечка. «Яшчэ гадок адсяджуся — і ліняць адсюль трэба. Гэтак можна спіцца ці зглузду з'ехаць у адзіноце, а з такой кампаніяй дык яшчэ хутчэй. Мясцовыя п'яніцы хоць гной з хлява выкінуць ці вады нацягаюць. А гэтыя...Ні рабіць, ні піць не ўмеюць. Улез у гаўно, дык цяпер ніяк ад яго не адшкрабешся. Паі, кармі і іх, і дзяцей іхніх, і бл...й іхніх. Спірту яны мне перадалі на продаж...А каму яго тут прадаваць? Вымерлі людзі, як маманты, і п'яныя, і цвярозыя...»

Дробны Казачок і шалёны Казёл ішлі па двары да веснічак.

— Бач ты, багата накалядавалі! Добра, што той смоўж адваліўся. А то ўсё б выжлукціў, нам бы мала што перапала. А так і спірт застаўся, і віна трохі, і закуска. Прыйдзем у Лужок — пабалюем!

— Ага, пад'еў я ўволю, толькі дзеўкі надта нос дзяруць, не падступішся.

— Ведама, гарадскія шкуркі, фанабэрыстыя. Але віду не маюць. Як усё адно маткі дваіх дзяцей. Хоць і кажуць, што маладыя, ды кіпці паразмалёўвалі! Ну іх, Андрэйка, к чортавай мацеры, маладзіц гэтых! Яны ўсе цяперака прайдзісветкі ды гультайкі! Лепш пераходзь да мяне, калі мой мужык перакуліцца, нядоўга ўжо засталося. А не, дык цяпер перабірайся! А то ён ляжыць сабе, як калода, лапы склаў, а мне і хазяйства адной глядзі, і агароды.

Цішыня аж да звону ў вушах. Крычы, хоць парвіся, не пачуе ніхто, а звалішся на бальшаку — не ўгледзяць, праляжыш да рання, а то й да паўдня, скалееш...

— А й, праўда, Валька, дзе я тут каго шукаць буду! У цябе печ цёплая і ў чугунку наварана. Дый сама ты нічога шчэ, гы-гы-гы! — адгукаецца Андрэйка і бачыць на яве: знаёмая постаць адхіснулася ад лаўжоў на тым баку вуліцы.

— Мамка! — немы енк хлапчыны праціяў наваколле. Вялізны чорны цень страсянуўся і з гучным трэскам ляснуўся на дарогу, перагарадзіўшы вуліцу.

— То ж ігруша старая. Камель раскалоўся — вось і звалілася. Не крычы, а то бывае пачуе хто — скажа, во, раве, што бугай, дурны значыць, — супакойвала Чацвяртушка. — А мо здалося што, дык перахрысціся.

— Здалося. А чаго яна, бляха, звалілася, ветру няма ж ?

— Аджыла сваё.Снегу на галлі нападала. Добра, нас не зачапіла. А то ж магла забіць ці пакалечыць.

Слівы цягнулі ўвышкі свае каравыя лапы. Спалоханы зайчык прыціснуў вушы і паляцеў праз поле прэч ад чалавечага жытла. Мароз аздабляў стылыя шыбы хвойкамі ды мальвамі.

Калядоўшчыкі пералезлі праз ламачча і рушылі напрасткі. Пайшлі з Засценка і болей не вернуцца, пакінуўшы здані сам-насам са здзічэлымі садамі і хатамі без прызбаў.

У Гуляішыных запалілі святло і ўзяліся святкаваць. Сяргей уліў у чарку прыхаваны да Багатай Каляды самагон. І хаця напой не быў чыста хлебным, але падаўся яму гэткім жа мяккім і смачным, як тады, у трэцім класе, напярэдадні школьнай ёлкі. А вось закуска была куды лепшая,чым у маленстве. Асабліва ўдалося халоднае. А інакш і быць не магло! Цэлая супавая кура ў печы паўдня прэла, дый капыт добра ўварыўся.Нахвальваючы страву, Сяргей узяўся ўжо за другую талерку, нібы імкнучыся вярнуць назад дзяцінства і ад'есціся ўволю за ўсе галодныя гады адразу.

А вось Любка святла не паліла, каб не пабудзіць цётку. Пакуль старая спала, яе клапатлівая пляменніца паролася ў шафе. Там, паміж пажоўклых прасцін і цвілых сукенак, былі схаваныя грошы на смерць. Вось яны! Чатыры мільёны, укручаныя ў баваўняную панчоху. Любка адлічыла сабе трыста пяцьдзясят. Астатнія паклала на месца. «Не бяру, пазычаю. Як памрэ, усё адно мне хаваць, — апраўдвала сябе Цыганская Мадонна, упершыню пашкадаваўшы, што парадніласяне з роўняю. — Улезла ў нерат — ні ўзад, ні ўперад. Каб не такая багатырка была мая сваццця, дык занесла б якую прасціну — і ладна было б...»

Сцёпішын сын хроп у катуху на саломе. Палавічок скулёмчыўся, скуранка спаўзла з пляча, а ён прытуліўся да цёплага бока ягняці — адразу ўлежна і ўтульна зрабілася.

Пад святлом адзінага на дзве вёскі ліхтара мільёнамі бітых шкельцаў ззяў снежны неруш. Вяртацца дадому і не ўбачыць на сваім шляху ніводнага следа, апроч уласнага, пакінутага табою па дарозе ўпрочкі — што гэта: праклён ці блаславенне? Невядома. Толькі перажыць такое наканавана не кожнаму. Калядоўшчыкі ішлі з Засценка назад у Лужок па той самай пратаптанай колькі гадзін таму каляіне. Белы дол стаіўся ў чаканні цуду. На здзічэлым бальшаку ў Святы вечар зоры-зорніцы — божыя памочніцы спаткаліся з людзьмі.

*2014*


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Складскія запасы самазвалаў БелАЗ на заводзе ў Жодзіне. Здымкі зроблены з верталёта 7 студзеня 2015 года. На заводскай пляцоўцы беларускага аўтагіганта сабралася больш за сотню нерэалізаваных машын.**


REUTERS

**У цэнтры Парыжа прайшоў Марш адзінства — самая шматлікая вулічная акцыя ў гісторыі Францыі. Каля 1,5 мільёна чалавек выказалі салідарнасць з ахвярамі тэрарыстычнай атакі на рэдакцыю сатырычнай газеты «Charlie Hebdo». У першым шэрагу справа налева ідуць: прэм'ер Італіі Матэа Рэнцы, кіраўнік Палесціны Махмуд Абас, канцлерка Нямеччыны Ангела Меркель, прэзідэнт Францыі Франсуа Аланд, прэзідэнт Малі Ібрагім Бубакар Кейта, былы прэзідэнт Францыі Нікаля Сарказі, прэм'ер Ізраіля Бэньямін Нетаньяху, старшыня Еўракамісіі Жан-Клод Юнкер. Беларусь была рэпрэзентаваная паслом Паўлам Латушкам. Таксама ў маршы ўдзельнічаў былы кандыдат у прэзідэнты і палітвязень Андрэй Саннікаў. Прычым апошні апрануў бел-чырвона-белы шалік.**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Зіма ў Мінску: у двары рэдакцыі «Нашай Нівы» адзін за адным з'явіліся снегавікі.**


GETTY IMAGES SPORT

**У трэці раз за кар'еру Крышціяну Раналду (справа) атрымаў «Залаты мяч» як найлепшы футбаліст свету. Летась ён згуляў 62 гульні і забіў 61 гол. Аргенцінец Ліанэль Мэсі (злева) стаў другім па выніках галасавання.**



## Анекдоты і жарты

* * *

У нашай краіне ўсё вырашае прэзідэнт. А хто ў нас прэзідэнт — вырашае таксама прэзідэнт.

* * *

90% беларусаў жывуць у пастаянным стрэсе. Астатнія пастаянна жывуць у Германіі, Польшчы, ЗША...

* * *

– Учора зайшоў у краму, дык адныя і тыя ж куры па рознай цане: на адной паліцы па 30 тысяч, на іншай — ужо 40.

— Дык даляр падрос, пакуль разгружалі!

* * *

Бабуля атрымлівае пенсію і ў ведамасці ставіць «нулік». Паштальён здзіўлена:

– Бабуля, вы ж заўсёды ставілі крыжык?!

– Замуж выйшла — прозвішча памяняла.

* * *

Новы закон: 10 гадоў турмы за абразу пачуццяў веруючых у рубель.

* * *

Сяброўкі размаўляюць:

– Слухай, калі я ў метро перш за ўсё гляджу на правую руку мужчыны — гэта ўжо ўзрост?

– Не, узрост — гэта калі ты перш за ўсё глядзіш, дзе вольнае месца.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Петраградзе 5 жыдоў-студэнтаў**, якія скончылі гісторыка-філалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, хацелі запісацца ў лік студэнтаў Петраградскай духоўнай акадэміі, каб перайсці ў праваслаўе і пастрыгчыся ў манахі. Епіскап Анастасій, не могучы сваёй уладай прыняць іх у акадэмію, даў ім параду звярнуцца з гэтым у сінод, абяцаўшы са свайго боку магчымую падтрымку.

**«НН». №2. 1915.**

**52% за Юшчанку, 44% за Януковіча:** канчатковыя вынікі выбараў абвешчаныя 10 студзеня ўкраінскай ЦВК. Асцярожны Віктар Юшчанка не спяшаецца называць свайго кандыдата ў прэм'ер-міністры. Нацыянал-дэмакратычныя партыі звязваюць свае надзеі з палкай Юліяй Цімашэнкай, якая была галоўным трыбунам Юшчанкавай прэзідэнцкай кампаніі і зарэкамендавала сябе эфектыўным віцэ-прэм'ерам у 2001-2002 гадах.

**«НН». №2. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 13.01.2015.
Замова №159.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15002